№ 15 (948) 20 красавіка 2016

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

www.nn.by

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## У Віцебску хлопец затрымаў п'янага палкоўніка міліцыі за рулём




**Старонка 11.**



# Народны чэмпіён

**Кікбаксёра Віталя Гуркова звольнілі з Мінспорту. Тады людзі грамадою за дзень сабралі 3000 еўра, патрэбныя для ўдзелу ў чэмпіянаце свету.**

**Старонка 2.**

## «Праціўнікі Расіі імгненна становяцца найлепшымі сябрамі Лукашэнкі»

Лукашэнка **нечакана** з'ездзіў у Турцыю.

Візіт на саміт Арганізацыі ісламскага супрацоўніцтва ў Стамбуле ніяк не анансаваўся і атрымаўся дастаткова нечаканым. Асабліва, калі ўлічыць вельмі напружаныя адносіны паміж Расіяй і Турцыяй.

Ужо ў першы вечар знаходжання Лукашэнкі ў Стамбуле ён сустрэўся з кіраўніком Турцыі Рэджэпам Таіпам Эрдаганам. У інтэрнэце жартавалі, што бакі падпішуць пагадненне аб «удары ў спіну». Менавіта так назваў Уладзімір Пуцін інцыдэнт са збіццём турэцкімі войскамі расійскага знішчальніка.

Падрабязнасцяў спаткання Лукашэнкі і Эрдагана вельмі мала.

**Працяг на старонцы 3.**

## У Польшчы дзіця нарадзілася праз 55 дзён пасля смерці маці

Дактары клінічнай бальніцы Уроцлава **здзейснілі немагчымае**.

«Цуд» стаўся магчымым дзякуючы сучаснаму медыцынскаму абсталяванню.

41-гадовая жанчына была хворая на рак. Калі ў пацыенткі канстатавалі смерць мозгу, яна знаходзілася на 17-м тыдні цяжарнасці. Паколькі сэрца жанчыны яшчэ білася, дактары прынялі рашэнне, што будуць змагацца за жыццё дзіцяці.

Дзякуючы адмысловаму абсталяванню, дактарам удавалася падтрымаць жыццёвыя функцыі маці.

Праз 55 дзён неанатолагі вырашылі, што хлопчык ужо можа нарадзіцца, і зрабілі кесарава сячэнне.

Дзіця нарадзілася 9 студзеня, яно важыла тады каля 1 кілаграма, і яму была неабходная інтэнсіўная тэрапія. Праз месяц яго адключылі ад рэспіратара, а яшчэ праз два — выпісалі дадому.

Цяпер хлопчык цалкам здаровы і важыць больш за 3 кілаграмы, яго гадуе бацька.

**АГ**

## У Віцебску затрыманы баец-неанацыст з «Азова»

Некалькі дзён таму ён вярнуўся ў Беларусь з Украіны. **Старонка 4.**

## У байкераў масава канфіскуюць матацыклы

пасля таго, як матацыкліст падбіў даішніка ў Мінску. **Старонка 6.**

## Вітаўт Мартыненка

Памёр музычны крытык, які ў 1980-я першым пачаў раскручваць беларускамоўны рок. **Старонка 12.**

## Імёны для Вікі

Алесь Кіркевіч. Апавяданне. **Старонка 15.**

# Беларуская салідарнасць

## Кікбаксёра Віталя Гуркова звольнілі з Мінспорту. Тады людзі грамадою за дзень сабралі 3000 еўра, патрэбных для ўдзелу ў чэмпіянаце свету



«Дзесяціразовы чэмпіён свету Віталь Гуркоў звольнены з Мінспорту за ўдзел у гурце *Brutto*, пад пагрозай яго выезд на першынство свету» — такая навіна абляцела інтэрнэт раніцай 13 красавіка.

Грамада адрэагавала на скандальную сітуацыю са звальненнем тайбаксёра Гуркова імгненна. На платформе «Талака» быў абвешчаны збор грошай на ўдзел Віталя ў чэмпіянаце.

Праект атрымаў назву «Народны чэмпіён». Менш чым за суткі грамада дала рады праблеме. Тры тысячы еўра, патрэбныя для ўдзелу Гуркова ў чэмпіянаце свету, былі сабраныя.

Праўда, сам Гуркоў народных грошай высакародна адрокся: «Лепш перадаць іх у дзіцячы хоспіс».

А пачалося ўсё з апублікаванага на сайце «Еўрарадыё» паведамлення: сусветнавядомы баец Віталь Гуркоў, які ў сакавіку ў чарговы раз стаў чэмпіёнам Беларусі па муай-тай, можа не паехаць на чэмпіянат свету, што стартуе 19 мая ў Швецыі.

«Цікава, ці знойдуць грошы чыноўнікі з федэрацыі на спартоўца, ад якога яны пазбавіліся з-за яго музычнай дзейнасці. Час ідзе, а яснасці няма. Ці нам на канцэртах скрыначку паставіць з надпісам «Гуркову на чэмпіянат»?» — напісаў спартсмен у адкрытай суполцы ў *Viber*.

Нагадаем, што сёлета ў сакавіку баец, які таксама займаецца музыкай, прапусціў некалькі гастроляў у складзе гурту *Brutto*, вярнуўся на рынг і ўпэўнена перамог на чэмпіянаце Беларусі па муай-тай. Акурат на гэтых спаборніцтвах адбіралі ўдзельнікаў сусветнага першынства. Здавалася б, дзесяціразовы чэмпіён планеты і сусветная зорка муай-тай Віталь Гуркоў павінен быць адным з першых у спісе кандыдатаў на паездку ў Швецыю.

Просім байца патлумачыць сітуацыю. Цягам гутаркі высвятляецца, што дзяржава ўжо не плаціць заслужанаму майстру спорту зарплату.

«Некаторыя члены Беларускай федэрацыі муай-тай і кікбоксінга ўвытравілі мяне са штатнай каманды», — расказаў Гуркоў.

Як жа атрымалася, што Гуркоў больш не стаіць на стаўцы ў Мінспорту?

«Афіцыйна я сышоў па згодзе бакоў, — тлумачыць Гуркоў. — Усё пачалося з таго часу, як я стаў выступаць у складзе *Brutto*. Спачатку гэта ўсім падабалася. Да таго ж усе ведалі пра маю пазіцыю наконт прасоўвання беларускай мовы і ўдзелу ў культурным жыцці краіны. Падчас гастроляў я браў адпачынак па ўласным жаданні і выязджаў. Музычная дзейнасць не перашкодзіла мне перамагчы на чэмпіянаце Еўропы. Потым я чарговы раз стаў чэмпіёнам Беларусі, павінен быў ехаць на чэмпіянат свету — 2015, але траўмаваўся. У той час змяніўся старшыня Федэрацыі муай-тай і кікбоксінга. Ім стаў генерал-маёр унутраных войск МУС Юрый Караеў, чалавек новы. Гэтым, напэўна, скарысталіся нядобразычліўцы. На адным з пасяджэнняў федэрацыі абмяркоўвалі артыкулы з разнастайных сайтаў. Быў там і мой фотаздымак з капай, на якой выяўлена «Пагоня». Сітуацыю выставілі так, што ў зборнай вораг, ледзьве не экстрэміст і апазіцыянер. Мяне доўга схілялі напісаць заяву па ўласным жаданні. Я гэтага не зрабіў. У выніку мы дамовіліся з Караевым, што я дапрацую да канца кантракта і сыду. У Мінспорту майму рашэнню былі шчыра здзіўленыя, прапаноўвалі застацца. Але рашэнне ўжо было прынятае».



**Кіраўнік Федэрацыі кікбоксінгу Юрый Караеў і галоўны трэнер Міхаіл Сцяпанаў.**

Віталь Гуркоў вымушаны быў пайсці на такі крок, бо яму сказалі, што не будуць падпісваць сацыяльных адпачынкаў і, такім чынам, ён не зможа выязджаць на канцэрты.

Сам Віталь Гуркоў лічыць, што нашы нацыянальныя сімвалы не трэба палітызаваць: «Яны належаць беларускаму народу, гэта частка нашай гісторыі. Такога меркавання прытрымліваецца, напэўна, кожны адэкватны чалавек. Нядаўна гэтую тэму абмяркоўвалі нават у праграме «Клуб рэдактараў» па Першым нацыянальным. Канкрэтна мяне «Пагоня» матывуе, дапамагае перамагаць», — дадае Гуркоў.

Віталь Гуркоў лічыць сябе здольным пераможцам на наступным чэмпіянаце свету.

«Што датычыць гурту *Brutto*, то нават падчас гастроляў я працягваю трэніровачны працэс і праводжу майстар-класы. Калі я выходжу на рынг, значыцца, я ўпэўнены, што знаходжуся ў належнай форме», — кажа Гуркоў.

Віталь Гуркоў — адзін з самых тытулаваных байцоў за ўсёй гісторыі чэмпіянатаў свету па муай-тай. Ён таксама здабыў вялікую папулярнасць у грамадстве дзякуючы сваёй дзейнасці па падтрымцы нацыянальнай культуры і мовы.

«Цяпер не той момант, каб раздзяляць беларусаў на прыхільнікаў бел-чырвона-белага ці чырвона-зялёнага сцягоў. Трэба аб'ядноўвацца і разам вырашаць складанасці, з якімі сутыкнулася краіна. Тыя людзі, якія сёння беларусаў раз'ядноўваюць, па вялікім рахунку, б'юць па суверэнітэце краіны», — кажа Гуркоў.

**ЯМ; Яўген Валошын, Еўрарадыё**

## Сцісла

### Мінкультуры: Царква павінна не зносіць, а рэканструяваць гістарычныя будынкі

Праекты па аднаўленні гістарычных будынкаў і забудове на вуліцы Вызвалення ў цэнтры Мінска, разгледжаныя Міністэрствам культуры, прадугледжваюць захаванне пабудоў, зносу якіх дамагаецца Беларускі экзархат Рускай праваслаўнай царквы (БПЦ). Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Мінкультуры Ігар Чарняўскі.

Нагадаем, мітрапаліт Павел звярнуўся да віцэ-прэм'ера Наталлі Качанавай з просьбай паспрыяць зносу гісторыка-культурных каштоўнасцяў.

Начальнік аддзела па ахове гісторыка-культурных каштоўнасцяў Наталля Хвір запэўніла, што міністэрства «не дазволіць знесці будынкі».

### Прадпрымальны злодзей прадаў скрадзеныя курткі іх гаспадару

32-гадовы валожынец прыйшоў да 72-гадовага знаёмага пазычыць алкаголь. Калі яму адмовілі, мужчына не прыдумаў нічога лепшага, як скрасці ў гаспадара курткі з падвалу. А пасля вярнуўся і прапанаваў таму самаму чалавеку купіць курткі за алкаголь. Той асабліва не разглядаў, што набывае, і пагадзіўся. Ён толькі назаўтра заўважыў, што «купіў» уласныя курткі. Цяпер аднаго будуць судзіць за крадзеж, а другога праверАЮЦЬ па факце продажу алкаголю.

**СМ; БелаПАН**

## Апытанне на nn.by

### Як па-Вашаму, ці апраўдана было называць музейны комплекс «Лініяй Сталіна»?

| | | |
|---|---|---|
| Так | 130 | 8% |
| Не | 382 | 24% |
| У прынцыпе не, але раз гэтае імя прыцягвае замежных турыстаў, то хай будзе | 173 | 1% |
| Такую назву трэба забараніць | 923 | 57% |

Усяго прагаласавала 1608 чалавек.

## Самае чытанае на nn.by за 13 — 19 красавіка

1. Топ-10 папулярных беларускіх Instagram-акаўнтаў
2. Дзесяціразовы чэмпіён свету Віталь Гуркоў звольнены з Мінспорту
3. У Мінску затрыманы баец «Азова» з Віцебска «Тэрор-Машына»
4. Беларуская вёска як самы антыбеларускі элемент
5. Сучасным дзецям паказвалі капірку, касетны плэер, тэтрыс ды іншыя старыя рэчы і пыталіся, што гэта — вясёлае відэа
6. У Пензе адзначалі Дзень касманаўтыкі, але нешта пайшло не так
7. Ураджэнка Мінска трапіла ў спіс самых багатых людзей свету да 30-ці
8. Сайт расійскіх чарнасоценцаў апублікаваў фота Джона Сільвера і расказаў, хто ён
9. Беларускія тэлеканалы пазапланава запрацуюць «у сувязі з неабходнасцю трансляцыі асабліва важнай перадачы»
10. «Працўнікі Расіі імгненна становяцца найлепшымі сябрамі Лукашэнкі»

# «Праціўнікі Расіі імгненна становяцца найлепшымі сябрамі Лукашэнкі»

Працяг са старонкі 1.

Сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з прэзідэнтам Турцыі прайшла за зачыненымі дзвярыма і доўжылася гадзіну. З сухіх паведамленняў інфармацыйных агенцтваў вынікае, што «бакі дамовіліся актывізаваць супрацоўніцтва, адкарэктаваць дарожную карту ўзаемаадносін». З беларускага боку на перамовах былі міністр замежных справаў Уладзімір Макей, пасол Беларусі ў Турцыі Андрэй Савіных і прэс-сакратар Аляксандра Лукашэнкі Наталля Эйсмант.

Эрдаган сказаў, што гатовы наведаць Мінск.

Звяртае ўвагу той факт, што сустрэча адбывалася не ў рэзідэнцыі палацы, а на яхце *Savarona*, якая некалі належала заснавальніку Турцыі Кемалю Атацюрку, а яшчэ дзесяць гадоў таму была бардэлем. Прэзідэнты ў нязмушанай атмасферы каталіся па Басфоры. Таксама на яхце прысутнічала кіраўніцтва іншых краін — Азербайджана, Бахрэйна, Малайзіі, Камеруна, Афганістана, Босніі, Емена, Пакістана і г.д.

Першай версіяй прагучала, што Лукашэнка паехаў у Турцыю па просьбе Пуціна, каб быць там яго вушамі і вачыма ці стаць пасярэднікам у перамовах. Аднак большасць экспертаў усё ж адкідае такую гіпотэзу.

«Ні пра якія сакрэтныя місіі, ні пра якія пасярэдніцкія паслугі гаворкі быць не можа. Расія, скажам шчыра, не мае патрэбы ў такіх паслугах. Калі тут раптам будзе прынятае рашэнне, што з Турцыяй адносіны трэба выпраўляць, то для гэтага ёсць шмат прамых магчымасцяў», — лічыць рэдактар часопіса «Расія ў глабальнай палітыцы» Фёдар Лук'янаў.

Другая версія больш рэалістычная: Лукашэнка на берагах Мармуровага мора проста прасоўвае эканамічныя інтарэсы Беларусі. Пасля таго, як Расія выгнала турэцкі бізнэс, Аляксандр Лукашэнка хоча перацягнуць частку яго ў Беларусь.

«І візіт у Стамбул, і заява па Карабаху — гэта лінія на аслабленне абмежаванняў, якія на Беларусь накладае сяброўства ў АДКБ. Гэтае сяброўства пагражала тым, што на Беларусь надзенуць аброць, а беларускіх салдат адпраўляць ваяваць за чужыя інтарэсы», — кажа ўсходазнаўца Сяргей Богдан.

У размове з «НН» Богдан звярнуў увагу на нядаўні візіт міністра замежных спраў Турцыі Давутаглу.

Апроч спатканняў з Эрдаганам, Лукашэнка меў яшчэ шэраг сустрэч на «палях саміту». Была размова са старым саюзнікам, прэзідэнтам Казахстана Нурсултанам Назарбаевым, сустрэчы з кіраўніцтвам Афганістана і Пакістана. Сустрэўся беларускі лідар таксама з шэйхам Тамімам бен Хамадам аль-Тані, эмірам Катара — краіны, якая традыцыйна лічыцца аплотам ЗША ў арабскім свеце.

Расійская прэса на візіт Лукашэнкі адрэагавала бурна.

Вялікі аналітычны артыкул пра вынікі візіту кіраўніка Беларусі ў Турцыю падрыхтавала афіцыйнае агенцтва РІА «Новости». У якасці эксперта ў ім выступіў намеснік дырэктара Цэнтра ўкраіністыкі і беларусістыкі МГУ Багдан Бяспалька, вядомы сваімі ранейшымі выпадамі на адрас Беларусі.

«Безумоўна, беларускі лідар імкнецца здабываць выгаду з любых адносін. Пры гэтым ён не азіраецца ні на Расійскую Федэрацыю, ні на саюзную дзяржаву, ні на канкрэтныя пажаданні з боку РФ. Што тычыцца заяваў, зробленых у Турцыі, я думаю, што гэта дэманстрацыя незалежнасці ад Масквы. Такая знарочыстая, яркая, зробленая максімальна эфектна, для таго, каб гэта заўважылі ўсе: і на Захадзе, і ўнутры Беларусі, і ў Маскве», — сказаў Бяспалька для РІА «Новости».

Палітолаг Андрэй Суздальцаў, дэкан факультэта сусветнай эканомікі і сусветнай палітыкі Вышэйшай школы эканомікі, пракаментаваў гэты візіт у інтэрв'ю адыёзнаму выданню eadaily.com.

«У адносінах нашых краін [Беларусі і Расіі — **«НН»**] склалася вельмі дрэнная тэндэнцыя за апошнія гады, калі нашы жорсткія праціўнікі імгненна аказваюцца найлепшымі сябрамі Аляксандра Лукашэнкі. Мы памятаем не толькі Эрдагана, але яшчэ Саакашвілі і Парашэнку», — сказаў Суздальцаў.

«Чалавек, які ўдарыў, па словах Уладзіміра Пуціна, Расію ў спіну, — жаданы партнёр для бліжэйшага саюзніка Масквы, Аляксандра Лукашэнкі», — пачынаецца артыкул на сайце «Взгляда».

**Зміцер Панкавец**

## Сайт расійскіх чарнасоценцаў апублікаваў фота Джона Сільвера і расказаў, хто ён

Некалькі месяцаў таму мы публікавалі інфармацыю пра тое, што знік ананімны заснавальнік рэзка нацыяналістычнага сайта 1863x.com, вядомы пад нікам *Jhon Silver*.

Сайт гэты быў радыкальна патрыятычным.

Як сцвярджаў сам Джон, у Беларусі супраць яго завялі крымінальную справу, кінулі на праверку ў псіхіятрычную клініку ў Навінкі. Потым справа Джона сцішылася, і хлопец уцёк ва Украіну, хоць і быў «пад падпіскай».

А вось ужо адтуль Джон невядома чаго паехаў у Расію і там знік. Гэта немагчыма было спраўдзіць, бо грамадскасць не ведала яго нага імя, а сям'я ўсё старанна хавала, каб не нашкодзіць хлопцу.

І вось на гэтым тыдні на адным з расійскіх чарнасоценскіх сайтаў з'явіўся артыкул, прысвечаны беларусу «Джону Сільверу».

Паводле аўтара (якому КДБ раней забараніў уезд у Беларусь, дарэчы), Джон Сільвер — гэта 25-гадовы ўраджэнец Ліды Эдуард Пальчыс. Яго затрымалі 23 студзеня пры перасячэнні украінска-расійскай мяжы. Цяпер Эдуард, мауляў, знаходзіцца ў СІЗА-1 па Бранскай вобласці.

Між тым у прэс-службе Упраўлення МУС па Бранскай вобласці заявілі, што нічога не ведаюць пра затрыманне беларускага грамадзяніна і ніякай інфармацыі аб гэтым не распаўсюджвалі.

Але да артыкула чарнасоценцаў далучанае фота Эдуарда ў даволі стомленым выглядзе, зробленае, відаць, расійскімі сілавікамі ў СІЗА. Гэта ўскосна даказвае, што інфармацыя — адмысловы інфармацыйны «зліў».

Але чаму менавіта цяпер? Пакуль цяжка адказаць на гэтае пытанне, бо мы па-ранейшаму мала што ведаем пра загадкавага Эдуарда Пальчыса. А тыя людзі, што знаёмыя з ім прыватна, адмаўляюцца штосьці распавядаць СМІ.

Нам удалося даведацца толькі тое, што Эдуард — насамрэч лідчук. Пару гадоў таму ён перамог у рэспубліканскай алімпіядзе па гісторыі Беларусі, а з універсітэта сышоў на апошнім курсе, каб не патрапіць на размеркаванне. У Беларусі ў яго засталася жонка і бацькі, яны чакаюць ягонай экстрадыцыі ў Беларусь, дзе супраць Эдуарда распачата і расследуецца крымінальная справа па ч. 1 арт. 130 («Распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці або розні») і ч. 2 арт. 343 («Распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў») КК Беларусі.



Таксама нам расказалі, што менавіта праз гэтыя справы і затрымалі Эдуарда, бо беларускія сілавікі абвесцілі яго ў вышук праз парушэнне падпіскі аб нявыездзе.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Парашэнка заявіў, што ўзгадніў з Пуціным алгарытм вызвалення Надзеі Саўчанка

«Учорашняя размова з Пуціным была па маёй ініцыятыве, і на падставе папярэдніх напрацовак, мне здаецца, што нам удалося ўзгадніць пэўны алгарытм вызвалення Надзеі», — сказаў Парашэнка ў ходзе сумеснай з прэм'ер-міністрам Даніі Ларсам Расмусэнам прэс-канферэнцыі ў Кіеве ў аўторак.

«Я гатовы адправіць прэзідэнцкі самалёт для таго, каб забраць Надзею дадому», — сказаў прэзідэнт Украіны.

## У палоне ва ўкраінцаў застаецца больш за сто расійскіх баевікоў

Каля сотні грамадзян Расіі знаходзіцца ў зняволенні на Украіне, больш чым 130 грамадзянам Расіі выстаўлены абвінавачванні ў сувязі з удзелам у баявых дзеяннях на Данбасе.

Такую заяву зрабіў упаўнаважаны МЗС РФ па правах чалавека Канстанцін Далгоў.

**СГ**

## Да ліпеня ў Шклове дабудуюць лядовую арэну коштам каля $15 млн

У Шклове абяцаюць хутка адкрыць лядовую арэну коштам 300 млрд рублёў (каля 15 млн долараў), паведамляе *tut.by*.

На пашпарце аб'екта тэрмін заканчэння будаўніцтва — ліпень 2016 года.

«Праца адказная. Лукашэнка ж рэгулярна тут будзе катацца — на лыжаролернай трасе, на арэне. Усё паспеем — абы фінансаванне было», — кажуць будаўнікі.

Будаваць лядовую арэну ў Шклове пачалі ў 2010 годзе, аднак работа некалькі разоў прыпынялася. У 2015 годзе пасля самага доўгага перапынку — паўтара года — будаўніцтва аднавілі. Цяпер вядуцца апрацоўчыя работы і добраўпарадкаванне тэрыторыі.

## У першым квартале продаж беларускіх «МАЗаў» у Расіі зменшыўся на 40%

У студзені—сакавіку 2016 года ў Расіі было прададзена 617 новых грузавых аўтамабіляў Мінскага аўтамабільнага завода. Такія звесткі прыводзіць расійскае аналітычнае агенцтва «Автостат», якое спецыялізуецца на вывучэнні рынку транспартных сродкаў Расіі.

Варта зазначыць, што ў першым квартале ў Расіі было прададзена 10,1 тыс. адзінак новых грузавых аўтамабіляў, што на 23,7% менш, чым за аналагічны перыяд 2015 года. Пры гэтым тэмп зніжэння продажу беларускіх грузавых аўтамабіляў «МАЗ» на расійскім рынку аказаўся яшчэ большым, паведамляе «Автостат». Так, калі ў першым квартале 2015 года былі рэалізаваныя 1.053 грузавыя аўтамабілі «МАЗ» (масай больш за 3,5 тоны), то за аналагічны перыяд 2016 года — 617 аўтамабіляў.

**БелаПАН**

## Канадскі прэм'ер адшыў журналіста, распавёўшы аб працы квантавага камп'ютара

Даўно вядома, які круты прэм'ер-міністр у Канады. Днямі з'явілася відэа, якое можа замяніць увесь гэты аповед!

Падчас прэс-канферэнцыі ў Інстытуце тэарэтычнай фізікі ў Ватэрлоа (канадская правінцыя Антарыа) журналіст прапанаваў прэм'ер-міністру распавесці, як працуюць квантавыя камп'ютары. Джасцін Трудо не разгубіўся.

У пачатку пытання прысутныя пачалі было пасмейвацца з прэм'ера, але пасля яго аповеду аб працы квантавага камп'ютара правакліцца ад сораму павінен быў сам журналіст.

**meduza.io**

## З 1 мая пенсіянеры будуць плаціць за праезд у электрычках 50% ад цаны

З 1 мая па 30 верасня, на перыяд сезонных сельскагаспадарчых работ, пенсіянеры (мужчыны, якія дасягнулі 60 гадоў, і жанчыны — 55 гадоў) маюць права на зніжку 50% ад цаны праезду ў цягніках рэгіянальных ліній эканомкласа, паведамляе сайт Беларускай чыгункі.

Дакументам не прадугледжваецца гэтая льгота пры праездзе ў электрацягніках рэгіянальных ліній бізнэс-класа (з нумараванымі месцамі), а таксама пры праездзе ў цягніках гарадскіх ліній.

Для набыцця праязных дакументаў са зніжкай пасажырам неабходна прад'яўляць арыгіналы пенсійных пасведчанняў, нагадвае сайт Белчыгункі.



# У Віцебску затрыманы баец-неанацыст з «Азова»

Некалькі дзён таму ён **вярнуўся ў Беларусь** з Украіны.

Стасю Ганчарову 20 гадоў. Сярод саслужыўцаў ён меў вялікі аўтарытэт праз сваю бескампраміснасць.

«Ён заўсёды быў на перадавой, бескампрамісны, смелы», — так нам яго апісалі ў «Азове».

«Стась збіраўся ехаць у Беларусь, казаў, што яму тут усё абрыдла, хоць і кіраваў тут узводам маладых. Казаў, маўляў, «я не магу, як хачу дахаты». Яго адгаворвалі, канечне, казалі: табе ж канец там. Але ён, можа, думаў, што яго не пазнаюць і не пасадзяць. І, праўда, дні чатыры Стась выходзіў на сувязь з Беларусі, а потым усё, знік. Яшчэ праз дзень паведаміў, што яго «прынялі», — расказалі нам таксама ў «Азове».

Дарэчы, мінулым летам, падчас размовы з карэспандэнтам «Нашай Нівы», інструктар трэніровачнай базы «Азова» з пазыўным Іваноў узгадваў пра Беларуса (пазыўны Ганчарова), адзначаючы, што той стаў легендай у батальёне.

«На ўсходзе ваюе хлопец з вашых, не памятаю пазыўны, — апісваў яго Іваноў. — Карацей, ён выбіў сабе на галаве татуіроўку «Тэрор-машына» і наводзіць жах на «сепараў». Хлопцы казалі, што падчас бою ў Шырокіне армія адступала і пакінула боекамплект. Дык калі «Азоў» наступаў, то гэты беларус некалькі тысяч патронаў адзін выстральнуў, адцягваючы на сябе агонь «сепараў», пакуль нашыя іх з бакоў абыходзілі. Потым палонныя казалі, што яны думалі, што там чалавек 10 па іх страляе — так хутка «тэрор-машына» пазіцыі мяняў. Пры гэтым яму гадоў 20, здаецца».




**У сябе на галаве 20-гадовы хлопец носіць татуіроўку «terror machine».**

Са старонкі Беларуса «УКантакце» вынікае, што той прытрымліваўся неанацысцкіх поглядаў.

На грудзях у яго набіта 88 — гэта лічбавая абрэвіятура, якая азначае «Хайль Гітлер». З іншага боку — герб асабліва батальёна СС «Дырлевангер». За часамі Трэцяга Рэйху ў гэты батальён набіралі злачынцаў-рэцыдывістаў наўпрост з турмаў.

На тэрыторыі Беларусі байцы СС «Дырлевангер» вылучаліся крайняй жорсткасцю, узяўшы ўдзел у дзясятках карных аперацый.

У прыватнасці, менавіта СС «Дырлевангер» праводзіў аперацыю «Чароўная флейта», мэтай якой было «забіць волю да супраціву» ў мінчукоў і вывезці дужэйшых на прымусовыя работы ў Германію.

Апроч таго, у «заслугах» гэтага батальёна — тысячы жыццяў беларусаў. Эсэсаўцы «Дырлевангера» выразалі ў Заходняй і Цэнтральнай Беларусі цэлыя вёскі, спальваючы жыхароў.

Апроч таго, «УКантакце» азовец Беларус мае нікнэйм, сугучны з імем аднаго з брыгадэфюрэраў СС.

19 красавіка на афіцыйным сайце Міністэрства ўнутраных справаў з'явіўся каментар адносна справы 20-гадовага жыхара Віцебска, які быў байцом батальёна «Азоў» ва Украіне.

«У кастрычніку 2013 года зламыснік разам з футбольнымі фанатамі пад пагрозай гвалту прымусіў двух 13-гадовых падлеткаў адрачыся ад антыфашысцкага руху і прадэманстраваць нацысцкае прывітанне. Увесь працэс быў зняты на відэакамеру і выкладзены ў інтэрнэт», — адзначаецца ў паведамленні.

Супраць яго заведзеная крымінальная справа па артыкуле 339 КК «Хуліганства», па гэтым артыкуле хлопцу можа пагражаць да 6 гадоў турмы.

«Акрамя таго, прызначаны экспертызы надпісаў і малюнкаў фашысцкай накіраванасці, размешчаных на целе падследнага ў выглядзе татуіровак. Вынікі даследаванняў будуць пакладзены ў аснову прававой ацэнкі дзеянняў, якія падпадаюць пад арт. 130 КК Беларусі («Распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці ці розні»)», — адзначаецца ў паведамленні МУС.

Таксама правяраецца факт наёмніцтва на тэрыторыі замежнай дзяржавы.

**Арцём Гарбацэвіч, Зміцер Панкавец**

# У Мінску судзяць дзіўнага беларуса з «Правага сектара»

Ён просіць асабістай **сустрэчы са старшынёй КДБ**.

18 красавіка ў Фрунзенскім судзе Мінска пачаўся працэс над беларускім байцом батальёна ДУК «Правы сектар» 29-гадовым Тарасам Аватаравым.

Ён быў затрыманы 26 лістапада 2015 года на чыгуначным вакзале ў Мінску. Яго судзяць за незаконны абарот і кантрабанду зброі. Пра наёмніцтва на тэрыторыі Украіны гаворка не вядзецца.

У пачатку судовага працэсу Аватараў (раней ён меў прозвішча Поспех, аднак змяніў у свядомым узросце) звярнуўся да журналістаў расійскіх СМІ, што ён забараняе ім асвятляць гэты працэс, а таксама здымаць яго.

Калі суддзя Жанна Жукоўская звярнулася да Аватарава, ці ёсць у яго заявы і хадатайніцтвы, хлопец сказаў, што просіць асабістай сустрэчы з кіраўніком КДБ Валерыем Вакульчыкам. «Ён зразумее мяне. Калі я публічна агучу тое, як прэсавалі мяне ў турме, то Беларусь не толькі пазбавіцца крэдытаў, але і перастане лічыцца цывілізаваным светам». На наступны дзень Аватараў адзначыў, што прэсавалі яго сукамернікі, а не супрацоўнікі спецслужб, да якіх ён не мае прэтэнзій.

Таксама падсудны папрасіў, каб яго вызвалілі ў сувязі з амністыяй. Сваю віну Аватараў прызнае часткова. Па артыкуле 228 ч. 2 («Кантрабанда зброі») ён не прызнаў віны. Аднак прызнаў па артыкуле 295 ч.2 — «Незаконныя дзеянні ў дачыненні да зброі, боепрыпасаў і выбухоўкі».



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Сталі вядомыя падрабязнасці затрымання Аватарава. Адбылося гэта абсалютна выпадкова. Хлопец спаў на чыгуначным вакзале, ён прыцягнуў увагу супрацоўніка УУС на транспарце тым, што з-пад курткі ў яго тырчала бронекамізэлька. Міліцыянт Глеб Шуст — ён прыйшоў на суд у скуранцы з чэрапам і аўтаматамі на спіне — павёў Аватарава ў адмысловае памяшканне для асабістага нагляду. Менавіта там у хлопца і знайшлі самаробную гранату, а таксама пісталет.

Цікавы юрыдычны момант, што выманне ў Аватарава зброі адбывалася без прысутнасці панятых. Аднак праз нейкі час панятыя падпісалі пратакол вобшуку Аватарава, хоць іх увялі ў кабінет, калі і граната, і пісталет ужо ляжалі на стале. І сведкі проста не бачылі, ці сапраўды гэтыя прадметы былі забраныя ў затрыманага. Сам Аватараў сцвярджаў, што гранату знайшоў у Свіслачы.

Яшчэ адна нестыкоўка была ў паказаннях сведкі Шуста. У судзе ён казаў, што гранату з кішэні дастаў супрацоўнік міліцыі, а сам Аватараў не чыніў ніякіх перашкодаў. У матэрыялах справы ж значыцца, што хлопец засунуў руку ў кішэню і выцягнуў яе, трымаючы ў руцэ гранату. Шуст сказаў, што правільныя менавіта тыя паказанні, што ён даваў у час папярэдняга следства.

Сапёр Руслан Клакотка, які працаваў пры абясшкоджванні гранаты, адзначыў, што граната не знаходзілася ў баявым стане. Прынцыповы момант, што было ўнутры гранаты: так званы «ўзрывацель» ці «запал». Узрывацель звычайна ўмантаваны ў гранаты, якія выкарыстоўваюцца гранатамётамі, яны спрацоўваюць пры ўдары. Што тычыцца «запалу», то для таго, каб прывесці яго ў баявое становішча, патрэбна адагнуць «вусікі», выцягнуць колца. Сапёр пацвердзіў, што ў гранаце Аватарава быў «запал». Пры гэтым сапёр пацвердзіў, што гранату пры патрэбе можна было вельмі хутка выкарыстаць. Цягам 3—4 секунд.

Цягам тыдня павінен быць вынесены прысуд.

**Зміцер Панкавец**



# На Данбасе забілі баевіка «ЛНР» з Мінска

15 красавіка ля сяла Жалабок (Луганская вобласць) са снайперскай вінтоўкі быў забіты баявік з пазыўным Юпітэр.

Як пішуць у сепаратысцкіх суполках у сацсетках, сапраўднае імя Юпітэра — Андрэй. Ён беларус, з Мінска.

«Гэта Юпітэр... Андрэй з Мінска... прыехаў сюды, калі стала зусім горача ў студзені 2015 г. Ваяваў пад Дэбальцавам. Потым у асобным разведузводзе ў брыгадзе «Прывід», — пішуць у адной з сепаратысцкіх суполак.

Яго сапраўднае імя — Андрэй Мокіч. Пахавалі яго ля горада Стаханаў Луганскай вобласці.



Ігар Субоцін.

# У памочніка сенатара Шакуціна зарэгістраваны афшор у Панаме

Кампанія працуе **яшчэ з 1990-х.**

У базе панамскіх афшораў, сярод іншых, згадваецца кампанія *VTF Belarus INC*, зарэгістраваная яшчэ ў 1994 годзе. На гэты факт звярнула ўвагу журналістка Святлана Калінкіна ў сваім фэйсбуку.

Дырэктар *VTF Belarus INC* — Ігар Субоцін. Сярод беларускіх імёнаў у спісе кіраўнікоў таксама названыя «Ігар Шаўчэнка» і «Уладзімір Буян» (?).

Ігар Субоцін блізкі да сенатара Аляксандра Шакуціна. У рэйтынгу самых уплывовых і паспяховых бізнэсменаў краіны Субоцін займае 63-е месца, а Шакуцін уваходзіць у першую дзясятку.

Субоцін лічыцца памочнікам Шакуціна ў савеце рэспублікі (на грамадскіх пачатках), быў намеснікам і ў тэніснай федэрацыі.

Паводле інфармацыі «Ежедневніка», у 1990-я Субоцін быў намеснікам дырэктара Мінскага трактара завода. У той час там працаваў і Шакуцін. Яны разам стварылі кампанію «ПМІ-груп» і ўдзельнічалі ў прыватызацыі «Амкадора».

Цяпер кампанія «ПМІ-груп» займаецца дыстрыбуцыяй абсталявання і запчастак, мае ў сваім складзе Дзяржынскі мотарамонтны завод.

Субоцін пазначаецца як дырэктар ТАА «ПМІ Інжынірынг».

**ЯМ**

**Беларускія афшоры**

Гэты не першы выпадак, калі вядомыя беларусы аказваюцца кіраўнікамі афшорных кампаній. Напрыклад, бізнэс на Брытанскіх Віргінскіх астравах меў Аляксандр Мятла, заснавальнік «Лініі Сталіна» і кіраўнік аб'яднання афганцаў.

# Іран, Саудаўская Аравія і Расія не дамовіліся

Пасля перамоў у Катары цэны на нафту пайшлі ўніз.

Краіны-экспарцёркі нафты незадаволеныя нізкімі цэнамі на паліва, аднак па-ранейшаму не могуць узгадніць сваю лінію дзеянняў. За апошнія гады нафта патаннела рэзка, таму краіны нарошчваюць аб'ём здабычы, каб атрымліваць ранейшыя даходы. Але рост прапановы на рынку зноў і зноў абвальвае цэны.

Каб разарваць замкнёнае кола, у пачатку 2016 года Сірыя, Расія, Катар і Венесуэла прапанавалі замарозіць здабычу нафты на ўзроўні студзеня 2011 года. Не супраць пагаднення і Саудаўская Аравія, але патрабуе, каб даў згоду яе галоўны канкурэнт — Іран.

А Іран адмовіўся нават узяць удзел у сустрэчы ў сталіцы Катара, дзе меркавалася падпісаць дамову. За перыяд санкцый нішу Ірана на рынку занялі іншыя краіны. І Тэгеран хоча спачатку нарасціць аб'ёмы экспарту нафты, а пасля ўжо дамаўляцца.

Па стане на 19 красавіка бараль нафты «Брэнт» каштаваў каля $43—44.

**ЯМ**

Фотафакт




**«Вітаўт» стане электробусам**

«Белкамунмаш» да канца года вырабіць 2 доследныя ўзоры электробуса для Мінска, а ў пачатку наступнага года — яшчэ 18 электробусаў. Іх галоўнае адрозненне ад цяперашніх аўтобусаў — экалагічнасць. Няма выхлапаў, і не трэба дратоў.

Тэхніка будзе абсталяваная прыладамі для хуткай зарадкі (не больш за 7 хвілін) на канцавых станцыях.

# Руды: Самыя складаныя рэформы ў Беларусі пачаліся і ўжо ідуць

Памочнік прэзідэнта прызнаў, што павышэнне пенсійнага веку — **непапулярнае рашэнне.**

Памочнік прэзідэнта Кірыл Руды ў складзе дэлегацыі Нацбанка, Міністэрства эканомікі, Адміністрацыі прэзідэнта і Банка развіцця Беларусі наведаў Вашынгтон. Чыноўнікі правялі перамовы з кіраўніцтвам Сусветнага банка.

Руды даў інтэрв'ю рускай службе «Голасу Амерыкі» падчас візіту ў Вашынгтон.

У памочніка прэзідэнта пацікавіліся наконт высноваў МВФ пра тое, што прычыны праблем эканомікі Беларусі сыходзяць каранямі ў мадэль празмернага цэнтральнага планавання. Паводле дакладу Дзярждэпа ЗША, 70% эканомікі Беларусі па-ранейшаму знаходзяцца пад кантролем дзяржавы.




«На пэўным этапе развіцця гэта быў не стрымліваючы фактар, а мабілізуючы, які дазволіў мабілізаваць эканоміку і даць імпульс для развіцця. У цяперашні час, сапраўды, ёсць пэўныя цяжкасці ў эканоміцы Беларусі, але я б не сказаў, што празмернае цэнтральнае планаванне — адзіны фактар», — адзначыў Руды.

Ён назваў прычыны праблем у беларускай эканоміцы: гэта змяненне сітуацыі на сыравінных рынках і праблемы ў рэгіёне.

«Мы — адкрытая эканоміка, і цяжкасці асноўных нашых гандлёвых партнёраў — Расіі і Украіны — не могуць не паўплываць на нас», — патлумачыў памочнік прэзідэнта.

Руды таксама адзначыў, што, па прагнозах МВФ, ужо ў 2017 годзе чакаецца паступовае аднаўленне эканомікі Беларусі: «0,4% — хай няўстойлівы рост, але ўжо нейкае аднаўленне».

Журналіст расейскай службы «Голасу Амерыкі» таксама пацікавіўся ў Кірылы Рудага, як ён ставіцца да сцверджання, што «ўлады Беларусі так і не ажыццявілі базавыя эканамічныя рэформы».

«У Беларусі мы менш гаворым, але больш робім. Можа, менш дэкларатыўна і мы не называем гэта рэформамі, але многія мерапрыемствы, якія былі праведзеныя ў краіне, дэ-факта з'яўляюцца тымі самымі непапулярнымі рэформамі, пра якія шмат гавораць. У прыватнасці, быў падпісаны ўказ аб павышэнні пенсійнага ўзросту, павышаны тарыфы на ЖКГ, адбылася лібералізацыя цэн у пачатку гэтага года», — падкрэсліў Кірыл Руды.

На думку памочніка прэзідэнта, фактычна самыя складаныя рэформы ў Беларусі пачаліся і ўжо ідуць.

Нагадаем, Беларусь і МВФ вядуць перамовы аб выдзяленні крэдыту на суму да $3 мільярдаў. Міжнародны валютны фонд патрабуе ад Беларусі правядзення рашучых рэформаў у эканоміцы: падвышэнне тарыфаў у ЖКГ і грамадскім транспарце, лібералізацыя цэн, правядзенне гнуткай курсавой палітыкі, павелічэнне долі прыватнага сектара.

**Паводле tut.by**

## Кватэры ў Мінску патаннелі да $1110 за метр

За месяц цэны **знізіліся на 3,3%.**

Актыўнасць кліентаў на мінскім рынку жылля расце другі месяц запар. Ад пачатку года жылая нерухомасць у сталіцы патаннела на 10%, а попыт у першым квартале аказаўся нават вышэйшым, чым у многія «дакрызісныя» гады.

З пачаткам вясны купляць кватэры ў Мінску сталі часцей. У сакавіку было праведзена больш за 1000 угодаў, іх колькасць у параўнанні з лютым павялічылася на 22%.

На фоне актывізацыі попыту стала скарачацца колькасць прадаваных кватэр. За месяц прапанова кватэр паменшылася на 4,1%, але яна па-ранейшаму велізарная — 9274 выстаўленыя на продаж кватэры.

Сярэдняя цана, разлічаная па дадзеных рэальных угодаў, знізілася ў сакавіку на 3,3% і склала 1112 $/м².

У залежнасці ад колькасці пакояў сітуацыя была наступнай (+ абсалютныя цэны):

1-пакаёвыя кватэры: 1155 $ / м² (-5,0% за месяц) — $ 40 000;

2-пакаёвыя кватэры: 1089 $ / м² (-3,7%) — $ 51 000;

3-пакаёвыя кватэры: 1046 $ / м² (-3,0%) — $ 72 000;

4-пакаёвыя кватэры: 1087 $ / м² (-2,3%) — $ 82 000.

**Паводле Realt.by**

## Сціслa

**Сярэдні заробак у Польшчы перавысіў 1000 еўра**

У сакавіку сярэдні заробак вырас да 4351 злотага — 1013 еўра ў эквіваленце. Гэта найлепшы вынік за апошнія гады. Для параўнання: сярэдні заробак у Беларусі цяпер складае каля 300 еўра.

**Самая выгадная валюта — квача**

Замбійскія грошы ад пачатку года выраслі ў адносінах да даляра на 19,9%. Рост квачы звязаны з павышэннем цэнаў на медзь, бо гэтая краіна па запасах медных руд займае адно з першых месцаў у свеце.

**Крызіс у Расіі**

Паводле даследаванняў, на прадукты, напоі і цыгарэты расіяне цяпер трацяць 50,1% сваіх даходаў. Крызіс давёў гэтую лічбу да найвышэйшага паказчыку за апошнія восем гадоў.

**ЯМ**

# Пасля таго, як матацыкліст падбіў даішніка, у сталічных байкераў масава канфіскуюць матацыклы

Гучная аварыя адбылася 18 красавіка ў цэнтры Мінска, на скрыжаванні праспекта Незалежнасці і вуліцы Казлова.

Інспектар спрабаваў спыніць матацыкліста, які ехаў з боку вуліцы Казлова, але той не спыніўся. Тады супрацоўнік ДПС схапіў матацыкл за руль, той пацягнуў яго за сабой — інспектар і матацыкліст апынуліся на скрыжаванні. У гэты час змяніўся сігнал святлафора і аднавіўся рух па праспекце. Інкасатарская машына, якая рухалася па трэцяй паласе, збіла іх абодвух.

Зрэшты, магчыма, што інспектар не наўмысна ўзяўся за руль матацыкла, а проста зачапіўся за яго элементамі форменнай вопраткі. Як было на справе, разбярэцца следства. Але ясна ўжо цяпер, што матацыкліст не падпарадкаваўся законнаму патрабаванню.

Цяпер і 46-гадовы міліцыянт, і 31-гадовы матацыкліст знаходзяцца ў бальніцы. Стан інспектара стабільна цяжкі — у яго зламаны звод чэрапа.

Кіроўцам матацыкла аказаўся 31-гадовы ўраджэнец Жлобіна, які 52 разы прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху. У яго сем разоў забіралі правы: за перавышэнне хуткасці, аварыі, кіраванне ў нецвярозым стане. Праўда, на момант аварыі ў яго былі дзейныя правы катэгорыі А. Па словах Юліі Ганчаровай, афіцыйнага прадстаўніка Следчага камітэта, алкаголю ў крыві матацыкліста не выяўлена. Ці ўжываў ён нейкія іншыя рэчывы — пакуль невядома.

Дзеянні матацыкліста кваліфікаваныя як злачынства, прадугледжанае часткай 2 артыкула 317 Крымінальнага кодэкса «Парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання». Каля яго палаты ў бальніцы выстаўлены пост аховы.

На наступны дзень пасля здарэння ДАІ пачало масавую праверку матацыклаў. Некалькі дзясяткаў байкераў сведчаць, што цыгам аднаго дня ў іх адабралі і змясцілі на штрафстаянку матацыклы. Супрацоўнікі ДАІ тлумачылі свае дзеянні неабходнасцю «зверкі нумароў рамы» або высвятлення, ці не скрадзены «жалезны конь».



Асаблівую цікавасць міліцыі выклікаюць спартбайкі — менавіта на спартовым матацыкле быў удзельнік ДТЗ.

Матацыклы забіраюць не ва ўсіх. «Хацелі забраць на праверку нумароў. Я ім патлумачыў, што матацыкл купіў 10 дзён таму — першы ўладальнік, 100 км прабегу і няма парушэнняў. Я адэкватны, яны адэкватныя — разышліся», — паведаміў tut.by адзін з матацыклістаў.

Дарэчы, пра праверку нумара як спосаб «змагання» з матацыклістамі міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч казаў яшчэ на прэс-канферэнцыі 1 сакавіка. Гаворка ішла пра байкераў, якія «газуюць» па начах і парушаюць спакой. Шуневіч адзначыў, што міліцыя мае законныя спосабы барацьбы з «гоншчыкамі». Напрыклад, супрацоўнік МУС можа «засумнявацца» ў серыйным нумары матацыкла і паставіць яго «на прыкол» для экспертызы. «Я такога супрацоўніка не пакараю, калі пабачу, што карысці ад яго рашэння будзе больш, чым шкоды», — падкрэсліў міністр.

У сваю чаргу, у ДАІ заяўляюць, што ніякай «вайны з байкерамі» цяпер няма — проста пачаўся мотасезон, а разам з ім і праверкі. «Узімку байкеры не ездзілі, вось за імі ніхто і не сачыў. Але яны зноў на дарогах горада, таму да іх ёсць увага. Але, паўтаруся, як і да ўсіх удзельнікаў дарожнага руху», — сказала Жанна Юран, прэсакратарка ДАІ сталіцы.

Тым часам байкеры паведамляюць, што праверкі выходзяць за межы Мінска — даішнікі пачынаюць цікавіцца «нумарамі рамы», напрыклад, і ў Мар'інай Горцы.

**УШ; інф. tut.by**

Следчы камітэт просіць грамадзян, якія могуць паведаміць якую-небудзь інфармацыю аб ДТЗ 18 красавіка на скрыжаванні пр.Незалежнасці і вул. Казлова ці даць відэазапісы, якія маюць дачыненне да ДТЗ, звязацца са следчымі па тэлефонах: (017) 222-25-10, (044) 500-31-11.

## На ТБ запусцілі музычны праект з Ярмошынай, Гайдукевічам і паслом Эквадора ў журы

«Дзве зоркі» на СТБ — новы музычны беларускі праект. 8 параў, у кожнай з якой адзін журналіст СТБ і адзін спявак спаборнічаюць за першае месца. Прэм'ера прайшла 18 красавіка, а скончыцца конкурс песні 9 мая. Канчатковых пераможцаў, як адзначае тэлеканал, вызначыць народнае галасаванне.

Пакуль у інтэрнэце можна пабачыць некаторыя выступы і бэкстэйджы са здымак шоу. Кожны выступ будзе ацэньваць журы. Акрамя людзей, непасрэдна звязаных з музыкай і творчасцю, у журы запрасілі чыноўнікаў і палітыкаў. Сярод іх — Лідзія Ярмошына (старшыня ЦВК), Алег Гайдукевіч (намеснік старшыні ЛДПБ), Алена Бераснёва (дэпутат Палаты прадстаўнікоў).

Таксама ў журы конкурсу былі заўважаныя:

Уладзімір Громаў — заслужаны артыст Беларусі,

Аляксандр Яфрэмаў — рэжысёр тэатра і кіно,

Мікалай Кірычэнка — народны артыст Беларусі, акцёр Купалаўскага тэатра,

Карлас Ларэа Давіла — пасол Рэспублікі Эквадор.

Канал СТБ выклаў на *YouTube* выступы дуэтаў, а таксама ацэнкі журы.

Сярод беларускіх спевакоў можна будзе пабачыць Віталя Варанко, Ніну Кароль, Сашу Нема, Аляксея Куляшова, Аляксея Хлястова, спявачку Венеру, Іскуі Абалян і, канечне, Аляксандра Саладуху.

Нягледзячы на тое, што шоу падаецца як унікальнае і прафесійнае, на расійскім тэлебачэнні конкурс песні з аднайменнай назвай «Дзве зоркі» здымаецца з 2006 года і мае цалкам ідэнтычную канцэпцыю.

Не было там толькі адзінага — палітыкаў у журы.

**Мікіта Недаверкаў**

## Былы кіраўнік Міншчыны Барыс Батура пахваліўся высокай пенсіяй

**«Атрымліваю каля 15 мільёнаў. Дзякуючы кіраўніку дзяржавы, далі пенсію з пасады вышэйшай службовай асобы», — расказаў ён карэспандэнту сайта by.tribuna.com.**



## У інтэрнэце з'явіліся здымкі сакрэтнага беларускага бронеаўтамабіля «Волат» ад МЗКЦ

Блог аб вайсковай тэхніцы і зброі BMPD размясціў фатаграфіі найноўшага беларускага бронеаўтамабіля, створанага якога займаецца Мінскі завод колавых цягачоў.

Мяркуючы па абрысах, у кадр трапіў макетны ўзор бронемашыны, які праходзіць тэставанне. Падрабязнасцяў пра новы бронеаўтамабіль прадпрыемства не выдае.

Дарэчы, на МЗКЦ ужо выпрабляецца спецыяльная браніраваная машына «Ліс-ПМ». Яна разлічана на перавозку да 10 чалавек па дарогах усіх катэгорый, развівае хуткасць да 120 км/г і мае запас ходу парадку 900 км.




У 2015 годзе на штогадовым парадзе ў гонар Дня Перамогі былі паказаны браневікі «Ліс-ПМ», узброеныя 12,7-мм кулямётам НСВ і 30-мм гранатамётам АГ-17.

**42.tut.by**

## Журналіст з Гомеля зашыў сабе рот у знак пратэсту




Пасля абвяшчэння чарговага штрафу журналіст-фрылансер з Гомеля Кастусь Жукоўскі зашыў сабе рот, паведамляе «Белсат».

15 красавіка суд абвінаваціў Жукоўскага ў парушэнні арт. 22.9 КаАП ( «Незаконны выраб прадукцыі СМІ»). За тое, што ён у эфіры тэлеканала «Белсат» расказаў пра становішча ў Беларускім таварыстве Чырвонага Крыжа, суд абавязаў журналіста выплаціць штраф 35 базавых велічынь (7,35 млн руб).

З пачатку года Жукоўскага штрафавалі ўжо 6 разоў.

Як журналіст зашывае сабе рот, зафіксавалі на відэа.

# 10 галоўных выказванняў Святланы Алексіевіч на сустрэчы ў Мінску

14 красавіка прайшла сустрэча Святланы Алексіевіч з чытачамі ў Мінску. Улады далі дазвол на правядзенне імпрэзы ў Палацы Рэспублікі. Праўда, толькі ў малой зале і ў дзённы час (16:00). Зала была паўнюткая, не ўсе здолелі трапіць. «Наша Ніва» занатавала самыя цікавыя рэчы, пра якія вялася гаворка.

### Я думаю, мы такое яшчэ пабачым

«Мяне часта папракаюць, што ў маіх кнігах людзі вельмі прыгожа гаворać, што гэта напісаў аўтар. [Гэта таму, што] я заспяваю чалавека ў такі момант, шукаю чалавека ўзрушанага — ці каля смерці, ці ў стане кахання. Тады чалавек становіцца вышэйшым за сябе. У такія моманты ён самы добры, лепшым ужо не бывае.

Мне нядаўна ў маю кнігу пра каханне прапанавалі каханне Гарбачова. Але вы ведаеце? Не. Я ўсё ж не здраджу маленькаму чалавеку.

Але я пабачыла, што ўяўляюць сабой так званыя «вялікія» людзі, якія яны. Гэта як «дача Януковіча». Здаецца, што яны ператвараюцца ў нешта неймавернае за гэтай аўрай улады, а потым вам як адкрываюць, як ён жыў... Вы пабачыце гэты залаты батон, прасціны з уласнымі партрэтамі... Я думаю, мы такое яшчэ пабачым [апладысменты і смех залы]. Вы проста ахнеце, наколькі гэта таксама малы чалавек».

### Зло

«Маё шчасце, што многія рэчы я проста прапускала міма. Асабліва злосць, рэўнасць. Для мяне гэтага не існуе. Для мяне гэта цікава з інтэлектуальнага боку. Нават зло. А калі гэта на цёмным-банальным узроўні, то з маёй свядомасці гэта знікае».

### Наш Вацлаў Гавэл і калектыўны Пуцін

«Алесь Адамовіч — гэта наш Вацлаў Гавэл. Мне здаецца, ён пасаваў на гэтую ролю. У яго быў такі еўрапейскі погляд на свет. Ён з любым чалавекам быў на роўных. Вось толькі ў Алесю Адамовічу я гэта бачыла. Калі б такі чалавек быў на чале, то гэта было б іншае грамадства. Мы прайшлі б іншы шлях. Але з другога боку, вось дэманізуюць Пуціна, а насамрэч гаворка вядзецца пра калектыўнага Пуціна. Чалавек наверсе акумулюе тое, што схавана ў душы мільённых мас. Гэта адбылося і з намі. Адзін чалавек накрыў наш час. І мы ўсе апынуліся не там, дзе думалі».

### Пакуты

«Страх робіць з людзей такую пакорную масу. Чаму нашы пакуты не канвертуюцца ў свабоду? Я не ведаю. Можа быць, пакуты, якія пачынаюцца яшчэ з майго любімага Дастаеўскага? У нас узнік культ асобы пакутаў. Пакуты і ў праваслаўі, і ў нашай літаратуры. Сапраўды, культ пакутаў. Мне здаецца, што пакуты карэжаць чалавека, тармозяць, ламаюць чалавека, пакуты змяншаюць. Старая спрэчка Салжаніцына і Шаламава: Салжаніцын лічыў, што пакуты ўзвышаюць чалавека, а Шаламаў казаў, што лагер разбэшчвае і ката, і ахвяру».

### Моладзь і сацыяльныя сеткі

«Моладзь, як казаў пра іх Платонаў, — гэта свежы час. Яны на 40—50 гадоў маладзейшыя за цябе. Зусім іншыя людзі. У іх абсалютна свае каштоўнасці, поўны разрыў з савецкімі каштоўнасцямі, на якіх мы выраслі. І гэта не нацыянальныя каштоўнасці, да якіх мы не прыйшлі. Яны занятыя проста жыццём. І гэты культ прыватнага жыцця. Я спачатку ставілася да яго з пагардай. Але пасля зразумела, што гляджу на гэта не як мастак.

Прыватнае жыццё — гэта надзвычай цікава. Проста мы ім ніколі не жылі. А тут, аказваецца, тваё метафізічнае — гэта вельмі цікава. І каханне, і прыгажосць рэчаў, прыгажосць кватэры, жаданне паехаць у Егіпет. Радасць жыцця, сэнс жыцця не абавязкова чэрпаць з Маркса, ці Леніна, ці нейкіх нацыянальных адкрыццяў. Калі пачынаеш размаўляць з моладдзю, то ў іх гэта неўсвядомлена. Канечне, мы кажам пра айфоны, яны там у твітарах сядзяць, але я думаю, што гэта, калі я заходжу паглядзець гэты твітар, няўменне і страх перад гэтым жыццём, неразуменне ці спроба ад нас адгарадзіцца. Мне вельмі цяжка выцягнуць адтуль сэнс».


ФОТА ІРЫНЫ АРАХОЎСКАЙ

### Украіна

«Ва Украіне — не грамадзянская вайна. Яны ўсе адмаўляюць гэта. Кажуць, што без Расіі б вырашылі, вырашылі інакш. Алігархату патрэбны смутны час, дзе можна рабіць свае цёмныя справы. Там ёсць што дзяліць, што не аддаваць. Мы маем справу з міфамі. Тэлебачанне стварае міфы. Тое, што кажа расійскае тэлебачанне, — гэта злачынства. Я хачу, каб Украіна перамагла, яна скіраваная ў будучыню».

### Пра чыноўнікаў

«Як я магу сур'ёзна ставіцца да міністра інфармацыі Ананіч, у якой пытаюцца, а чаму няма кніг Алексіевіч па-беларуску, а яна кажа, што ўсе правы ў рускага выдаўца. Калі ты кіруеш, то ты павінна ведаць, што руская выдаўца хвалююць рускія правы, яму зусім не трэба беларускія.

Ці ў галоўнага рэдактара «Мастацкай літаратуры» пытаюцца, чаму няма кніг Алексіевіч, ён кажа: «Яна не прынесла рукапісаў». А калі прынясе? «Ведаеце, у нас 500 рукапісаў, на пяць гадоў».

Улада ж не існуе адна — сядзіць адзін чалавек — ёсць цэлы ланцужок».

### Галоўныя праблемы Беларусі

«Праблема Чарнобыля стане перад намі. Калі ўлада акультурыцца, то гэта будзе галоўнай нашай праблемай. Гэта праблема на некалькі пакаленняў.

Нацыянальная праблема, натуральна, вельмі важная. Праблема мовы, літаратуры, культуры, каб мы сталі паўнавартаснай нацыяй. Ва Украіне ў савецкі час усе размаўлялі па-руску, а цяпер усе гавораць па-ўкраінску. Значыць, гэта можна. Можа нацыя зрабіць такі рывок. У нас з кім ні сустрэнься — дактары, таксісты — усе разумныя, усе разумеюць. Але кожны сядзіць як крот у сваім кутку.

У нас не так шмат часу, каб рашыць гэтыя праблемы».

### Ці магла б паклікаць на Плошчу?

«Гэта добра — Майдан, але мне бліжэйшыя Гандзі, пацыфізм. Ці магла б я заклікаць людзей на Плошчу? Сама б я пайшла, а дзяцей — не ведаю. Для мяне гэта вялікае пытанне. Калі б я пайшла, мне далі б па галаве, але на другі дзень выпусцілі. Але дзеці... Калі я пісала «Час сэканд-хэнд», то бачыла людзей, што з'язджаліся, плакалі пад мурамі [турмы — «**НН**»]. Я баюся, што ў нас усё можа быць. І Расія такая аграмадная, што можа ўцягнуць нас у варонку. Украіну ніхто не пускае ў Еўропу, а хто нас адпусціць? Часы трывожныя. Але гэта не адмяняе адзінае наша жыццё. Трэба быць шчаслівым, трэба паспрабаваць».

### Любоў

«Што такое каханне для мяне? Гэта такое суцяшэнне ад Бога, каб не страшна было паміраць».

**Запісаў Зміцер Панкавец**

# Верш, якім БАТЭ адказаў на прапановы аб беларусізацыі


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Футбольны клуб БАТЭ **ў вершаванай форме** адказаў на прапановы аб выкарыстанні беларускай мовы. Запыт даслаў Ігар Случак, арганізатар кампаніі «Справаводства па-беларуску». Яму адказаў генеральны сакратар БАТЭ Андрэй Вашкевіч.

* * *

Шаноўны Ігар!
У першую чаргу,
Вялікі дзякуй Вам за віншаванні!
Зімовую маркоту і тугу
Мы гналі ад сябе падчас чакання
Сезона новага. Нарэшце, вось і ён
Пагрукаўся і ў нашае акенца!
І клуб наш — шматразовы чэмпіён —
Ужо адчыніў сваёй «Арэны» сенцы.
І Ваш зварот — вясновая прыкмета —
Прыйшоў да нас ужо ў чацвёрты раз.
Канешне, мы ўдзячныя за гэта
І пішам Вам чарговы наш адказ.

Над ужываннем роднай мовы нашай
Мы ўсе ў БАТЭ працуем кожны дзень
Стараецца і Валадзько наш Саша,
Стараецца і Ліхтаровіч-Дзед.
У Дудзінцы — толькі «раніца», не «утро».
У Дудзінцы не «арбуз» які — «кавун»!
І хутка скажа «Смачна есці!»Дубра,
І «Дзякую!» адкажа наш Мілун.
Не ўсё так проста, але не сумуем,
І спадзяёмся, будзе толькі лепш.
Мы мовай карыстаемся, працуем,
Пакуль не ідэальна, не, але ж…

На форме мова ў Лізе чэмпіёнаў,
У сацсетках нашых мова часцяком.
Прафесар наш, Віталька Радзівонаў, —
Ён мовы правадыр у кожны дом.
Наш шчыры дзякуй Вам за прапановы,
Іх будзем усебакова разглядаць.
Барысаўшчына — край народнай мовы,
Яе тут прагнуць людзі зберагаць.
Напрыканцы жадаем вам здароўя —
Яго ж ані купіць, ні намяняць.
(Вы ж разумееце: калі ўжо Дэвід Боўі…
Дык што тады яшчэ пра нас казаць?)

Жадаем міру блізкім, шчасця ў хату,
У гарбаце цукру, у гаманцы — лавэ!
Наступным годам Ваш чакаем пяты
Зварот да клуба.

Шчыра Ваш, А.В.

# Нік Вуйчыч, які нарадзіўся без рук і ног: «Шчасце — не вынік поспеху. Шчасце — ведаць сваю мэту»

Сотні людзей прыйшлі ў «Мінск-Арэну» паслухаць яго шчаслівую гісторыю. Гэта парадаксальна, але менавіта чалавек, што нарадзіўся без рук і ног, вучыць людзей па ўсім свеце быць шчаслівымі.

Ён наведаў 58 краін, размаўляў з 13 прэзідэнтамі, выступаў больш як 3 тысячы разоў.

Вуйчыч прыехаў у Беларусь на адзін дзень. З наступнага года колькасць падарожжаў гэтага дзівоснага чалавека будзе скарачацца, бо Нік хоча больш часу праводзіць са сваёй сям'ёй, дзе двое малых дзяцей. Ён збіраецца працаваць праз інтэрнэт — арганізатары праекта рыхтуюць відэаролікі. Іх мара — сабраць на адной інтэрнэт-платформе 400 мільёнаў чалавек (6% насельніцтва Зямлі). Калі кожны чалавек з гэтай супольнасці будзе ахвяраваць штодня хаця б па адным даляры, гэта будзе велізарная дапамога там, дзе ў ёй ёсць патрэба. Адна з задач, кажа Нік, — перамагчы голад у свеце.

Нік Вуйчыч — бясконца пазітыўны, жвавы і прыгожы чалавек з яскравым гумарам. І, безумоўна, прафесійны аратар. Слухачы плакалі і смяяліся, сціхалі, сочачы за яго і сваімі думкамі, і шчыра дзякавалі апладысментамі.

Нік Вуйчыч вучыць таму, што немагчыма зрабіць лепшым іншага чалавека — можна толькі самому стаць лепшым. Калі хочаш змяніць свет, адзіны шлях — самому зрабіцца гэтай зменай. І кажа, што, калі цяжка, не варта чакаць нейкай дапамогі ад дзяржавы. Трэба дапамагаць адзін аднаму, і толькі гэта будзе развіваць дзяржаву: эканоміку, заканадаўства, культуру.

А яшчэ ён верыць у цуд і трымае ў шафе пару абутку на той выпадак, калі цуд адбудзецца.

**Яна Ласка**

**Нік Вуйчыч**

нар. 1982 у Мельбурне (Аўстралія). Нарадзіўся з сіндромам тэтраамеліі — рэдкай генетычнай паталогіяй, пры якой чалавек не мае паўнацэнных рук і ног. Нягледзячы на гэта, ён скончыў універсітэт, ажаніўся і ездзіць па ўсім свеце з лекцыямі, натхняючы тысячы людзей. Бацька дваіх здаровых сыноў.





**Што сказаў Нік Вуйчыч**

У кожнага з нас ёсць выбар: верыць у шчаслівую будучыню ці не. Я выбраў верыць. Разумейце, што калі вы не будзеце шукаць надзею, то ніколі яе не знойдзеце. Тады і будучыні ў вас не будзе.

Я думаў, што мяне зробяць шчаслівымі рукі і ногі. І даказаў сам сабе, што гэта не так. Маё жыццё, як і жыццё многіх людзей на Зямлі, было разбіта. Але вы не ўяўляеце сабе, якія прыгожыя рэчы можна зрабіць з чарапкоў! Трэба разумець, хто вы і чаго хочаце. Я застануся Нікам Вуйчычам, нават калі ў мяне не будзе языка, і вачэй, і вушэй — таму што маю душу ніхто не можа ў мяне забраць.

Смеласць — гэта не адсутнасць страху. Смеласць — гэта рабіць нешта нават тады, калі страшна. Кожны раз, калі мы церпім няўдачу — мы нечаму вучымся. Калі я вырашыў, што хачу выступаць перад людзьмі, я патэлефанаваў у 53 школы, дзе хацеў выступіць. І толькі ў адну з іх мяне запрасілі. З таго часу я сустрэўся з шасцю мільёнамі чалавек.

У 13 год гуляў у футбол і зламаў нагу. Праляжаў тры тыдні ў гіпсе, упёршыся ў столь. Вось тады я зразумеў, як гэта — быць інвалідам. І навучыўся цаніць тое, што ў мяне ёсць.

Нагоды для стрэсу ці дэпрэсіі можна знайсці ва ўсіх узростах. Дзеці нешчаслівыя, бо ім не купілі цацку. Падлеткі — таму што іх не разумеюць. Юнакі — праз любоўныя перажыванні. Студэнты — бо няма грошай. На працы дурны дырэктар. Ніяк не магу ажаніцца. Вы думаеце, што ажэніцеся і вось тады ўжо нарэшце будзеце шчаслівыя? Не! Спытайцеся ў тых, хто ўжо зрабіў гэта. Калі вы не ўмееце быць шчаслівымі цяпер, у тым стане, які ёсць, вы не будзеце шчаслівыя ніколі і нідзе.

Шчасце — не вынік поспеху. Шчасце — ведаць сваю мэту. Хай вашы мары будуць значныя. Будзьце шчырымі. Будзьце цярплівымі. Змяняйце тое, што можаце змяніць, і прымайце тое, што не можаце. Шукайце ў сабе мудрасць і ўвасабляйце прыстойнасць. Мары здзяйсняюцца. Цуды здараюцца.

## Аляксей Хлястоў прапанаваў абмежаваць уезд у Беларусь расійскім артыстам

Такое меркаванне беларускі спявак выказаў у інтэрнэце.

— Я вельмі хвалююся, калі беларускі чалавек выбірае паміж беларускім артыстам і артыстам з іншай, блізкай, краіны і кажа: «Усё, што робіць яны, — гэта крута, а ўсё, што робіце вы, — лухта». Я ў гэта не веру, — падзяліўся меркаваннем Хлястоў.

Выканаўца распавёў, што два гады таму, калі «абрынуўся» рубель, у Беларусь хлынулі яго калегі з іншых краін па такіх дэмпінгавых цэнах, што ён, жывучы ў сваёй краіне, не мае магчымасці гастраляваць. Бо да беларускіх артыстаў па гарадах праязджаюць іх расійскія калегі.

— На месцы Міністэрства культуры я б звяртаў на гэта ўвагу і рабіў нейкія сур'ёзныя рэмаркі для гэтых людзей. Нават, пакуль ідзе крызісны час, трошачкі або нават не трошачкі абмежаваў бы ім уезд.

У інтэрнэце словы Хлястова выклікалі вялікія спрэчкі. Большасць людзей кажа: вы спачатку пачніце спяваць прыгожа.

Неўзабаве Хлястоў абвергнуў свае словы: «Натуральна, я не прапаноўваў нікога забараняць — я казаў пра тое, што гэтае пытанне трэба неяк урэгуляваць. Дапусцім, калі ў часы СССР да нас прыязджалі 10 артыстаў з адной рэспублікі, то 10 нашых адпраўляліся на гастролі на іх радзіму. А ў выніку ўсё перавярнулі з ног на галаву... Хто я такі, каб каму-небудзь забараняць выступаць у Беларусі? Я разумны чалавек і заўсёды вельмі акуратны ў выказваннях».



## Магілёвец заплаціць 53 мільёны падатку за выйгрыш у покер

У Магілёве двое мужчын задэкларавалі даходы з-за мяжы і цяпер заплацяць 118 мільёнаў рублёў падаходнага падатку, паведамляе інспекцыя МПЗ па Магілёўскай вобласці. Адзін з мужчын — 30-гадовы жыхар горада — за мінулы год атрымаў аўтарскае ўзнагароджанне памерам 495,4 млн рублёў. Яму налічылі 64,4 млн рублёў падатку. Другі, 39-гадовы непрацуючы мужчына, задэклараваў выйгрыш у покер на суму 410,1 млн рублёў. Падатак да выплаты — 53,3 млн.

Ці сапраўды чалавек столькі выйграў у гульню, ці проста гэткім немудрагелістым спосабам вырашыў задэкляраваць даходы, але разлічыцца з дзяржавай магілёвец павінен да 15 мая. Да гэтага дня абавязаны выплачваць падаткі.

Гэта не адзінкавы выпадак выплаты буйнога падаходнага падатку ў гэтым годзе магілёўцамі. Нядаўна жыхар абласнога цэнтра заплаціў амаль 550 млн «падатку на даўгі» за тое, што не вярнуў доўг у 240 тысяч даляраў.

**БЮ**

## У «Мінск-Арэне» адмянілі канцэрт Баскава

Арганізатары «Вясенняга канцэрта», які мусіў адбыцца на «Мінск-Арэне» ў канцы красавіка, заявілі аб адмене мерапрыемства.

У канцэрце меліся ўзяць удзел Мікалай Баскаў, Юлія Савічава, Дзяніс Клявер і іншыя расійскія зоркі. Білеты спачатку каштавалі да 2 мільёнаў рублёў, пасля цана была зніжаная ўдвая.

Фармальна канцэрт заменены — па цяперашніх квітках можна будзе схадзіць на «Песню года», якая адбудзецца ў снежні.

Аднак усім ахвотным арганізатары вернуць грошы.

**БЮ**

## Брытанец адзначыў 100-годдзе скачком з парашутам

У свой дзень народзінаў 100-гадовы брытанец Вэрдэн Хейс скокнуў з парашутам з вышыні 3 тысяч метраў. Такім чынам ён паспрабаваў пабіць сусветны рэкорд і стаць самым пажылым чалавекам, які скокнуў з парашутам. Дзядуля здзейсніў палёт з інструктарам.

**Фотафакт**

## Латвія выпусціла авальны еўра з вожыкам

Банк Латвіі выпусціў у абарот калекцыйную срэбраную манету вартасцю 5 еўра «Казачная манета ІІ. Вожыкава футра». Кошт манеты ў Банку Латвіі — 39 еўра. Наклад — 10 000 асобнікаў.

Гэта другая манета ў серыі, прысвечанай героям любімых латышскіх казак. На аверсе манеты адлюстравана прынцэса з вожыкам, на рэверсе — статак парасятаў з вожыкам, які крочыць наперадзе.

У народных казках вожыкі надзяляюцца пазітыўнымі чалавечымі якасцямі — мудрасцю, стараннасцю і дабрадушнасцю.




**Гербу Магілёва вярнулі «Пагоню»**

Старадаўні беларускі сімвал ушчувалі ў святлодыёдныя гербы горада, якія начэпліваюць як упрыгожванні на слупах ліній электраперадач, што на ўездзе ў абласны цэнтр з мінскага кірунку. Раней у прадпрыемстве «Магілёўсвятло» заяўлялі, што «Пагоню» ў гарадскі герб уставіць тэхнічна немагчыма. Але пасля публікацый у незалежнай прэсе — змаглі.



# Ураджэнка Мінска трапіла ў спіс самых багатых людзей свету сярод моладзі



Разбагацець дзяўчыне дапамог блог, прысвечаны модзе.

Часопіс *Forbes* уключыў ураджэнку Мінска Крысціну Базан у спіс самых багатых людзей свету да 30 гадоў. За яе фота ў сацыяльнай сетцы «Інстаграм» сочаць 2,3 мільёна падпісчыкаў. Такая папулярнасць прывяла да таго, што з беларускай дзяўчынай сталі супрацоўнічаць люксавыя брэнды, у тым ліку *Louis Vuitton* і *Chopard*. Яна стала знакамітасцю і зарабляе мільёны еўра. Гераіню сацсетак з мадэльнай знешнасцю можна сустрэць на балі ў Рыяны ці на вечарыне для сусветных зорак у Нью-Ёрку.

Крысціна распавядала, што ў дзяцінстве жыла ў Мінску, а потым разам з сям'ёй пераехала ў Амерыку і адтуль у Швейцарыю. «Мая сям'я заўсёды кудысьці ездзіла, гаварыла на многіх мовах. Гэта ў мяне ў крыві», — дзялілася дзяўчына.

У 2011 годзе Крысціна Базан разам з фатографам Джэймсам Шардонам стварыла блог аб модзе *Kayture*. Блог хутка стаў працай, бо колькасць яго падпісчыкаў расла з касмічнай хуткасцю. Зараз у яе фотасесіі па ўсім свеце, таму Крысціна шмат падарожнічае.

Крысціна прызнаецца, што яна не любіць слова «блогер», бо яно прыніжае заслугі. На яе думку, любы можа націснуць кнопку ў інтэрнэце і завесці блог, але каб заявіць пра сябе ў індустрыі, трэба прыкласці куды больш высілкаў. Сапраўдны поспех прыходзіць да адзінак.

**Паводле БелТА**

# Ксенія Сабчак у Мінску: Лукашэнка сімпатычны мне як чалавек, але…

Расійская тэлевядучая Ксенія Сабчак правяла ў Мінску **творчы вечар**.



Імпрэза называлася «Сабчак — гэта брэнд» і, паводле анонсу, абяцала навучыць, як пабудаваць стратэгію ўласнага развіцця.

Некалі яна ўбачыла праграму «Поле цудаў», якую на той момант ужо гадоў дваццаць вёў Леанід Якубовіч. Прачытаўшы ў яго вачах страшэнную стому ад бабулек і іхніх хатніх кансерваў, Ксенія Сабчак зразумела, што больш не хоча быць зоркай «Дома-2». Сустрэчу ў Мінску Ксенія пабудавала на тым, што самае важнае для стварэння ўласнага брэнду і для шчаслівага жыцця ўвогуле — гэта займацца і развівацца ў той справе, якая падабаецца больш за ўсё.

«Галоўнае — высначыць, што падабаецца больш за ўсё. Гэта можа быць вельмі дзіўная рэч, адказ заўсёды схаваны. Больш за ўсё вам падабаецца хадзіць па крамах і вы можаце рабіць гэта ўвесь дзень? Падумайце, ці не стаць вам стылістам ці баерам [спецыялістам па закупках ў крамах моднай вопраткі і абутку — **«НН»**]. Любіце глядзець спартовыя праграмы? Тады, можа, ваша справа — спартовае каментаванне.

Не трэба рабіць тое, што не падабаецца, ні для якога статусу. Поспеху не будзе: ён прыходзіць тады, калі робіш тое, што любіш.

Мне больш за ўсё падабаецца працаваць з людзьмі, капацца ў іх, таму я займаюся журналістыкай».

Вядучая мяркуе, што поспех не мае залежнасці ад першапачатковага старту, і прывяла ў якасці прыкладу сябе. З яе словаў, дзеці вядомых ці багатых бацькоў зусім не абавязкова дасягаюць поспеху. Часцей наадварот — той, хто на старце мае менш, у выніку атрымлівае больш: «Канкурэнцыя ёсць на любых узроўнях. У маім асяроддзі таксама хапае складанасцяў. Цяжка, калі бацькі заўсёды больш за дзіця: больш вядомыя, больш значныя, больш паважаныя. Гэта не меншая праблема, чым бацькі-алкаголікі. Большасць сяброў майго дзяцінства не дасягнулі ў жыцці нічога ці апынуліся ўнізе».

Таксама поспех не звязаны з узроўнем аплаты: тыя, хто сапраўды любіць сваю работу, робіць яе добра за любыя грошы і ў любым выпадку праяўляе ініцыятыву. Гэта абавязкова дасць вынік: добрую работу заўсёды заўважаюць, нават калі здаецца, што гэта не так.

Са словаў Ксеніі Сабчак, якая мае некалькі кірункаў уласнага бізнэсу, самы вялікі дэфіцыт нашага часу — у актыўных мэтанакіраваных людзях, іх увесь час шукаюць і раней ці пазней знаходзяць.

Да якасцяў, якія засталіся нам з савецкіх часоў і ад якіх варта пазбавіцца, былі аднесены сціпласць і імкненне да абавязковай вышэйшай адукацыі. Таксама Ксенія заклікае не баяцца адмовы: перамагаюць тыя, хто працягвае ісці пасля падзення. «Адмова — гэта не значыць, што цяпер крызіс і немагчыма знайсці добрую працу (грошы, людзей і г.д.) Адмова — гэта значыць, што вам адмовілі, і толькі».

Пры канцы сустрэчы Ксенія Сабчак адказвала на пытанні з залы. На пытанне пра асабістае стаўленне да Аляксандра Лукашэнкі Сабчак адказала, што ён харызматычны, эмацыйны і прафесійна дае інтэрв'ю. Вельмі сімпатычны ёй як чалавек, але яна не згодная з несправядлівай і недэмакратычнай палітыкай, якую той праводзіць, зрэшты, як і з палітыкай Пуціна. Пры гэтым Ксенія сумна пажартавала, што народ і ў Беларусі, і ў Расіі вельмі цярплівыя, таму ёй падаецца, што тое, што адбываецца ў нашых краінах, — надоўга.

**Яна Ласка**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. Паведамляйце нам пра ўсё цікавае, вартае друку. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**

**Факс: (017) 284-73-29**

# Міхалок стварае праект «Ляпіс-98»

Спявак **вяртаецца да старога** рэпертуару, ад якога быў адрокся.

Упершыню публічна пра стварэнне праекту, у межах якога будуць выконвацца старыя хіты «Ляпісаў», якія не гралі ані *Brutto*, ані «Ляпісы» позняга перыяду, Сяргей Міхалок заявіў 1 красавіка.

«Мяне ўжо 10 год угаворвалі прыхільнікі ранняга клоўнскага вобразу выканаць што-небудзь з класікі, і толькі цяпер, дзякуючы маленькаму сыну, я магу гэта зрабіць без прымусу, нязмушана ды з аганьком», — зазначыў музыка.

Цяпер інфармацыя пацвердзілася. «Чокнуты клоўн Міхалок з кампаніяй бывалых для аматараў прыўкраснага! Навошта слухаць кавер, калі ёсць арыгінал? «Ляпіс-98» — гарантыя і прафесіяналізм», — гаворыцца ў заяве.

У той жа час Сяргей падкрэсліў, што *Brutto* застаецца, і заўважыў: «Я магу быць сур'ёзным, дарослым, разважлівым, але цыркач і вулічны гаер жывуць унутры мяне».

Былыя паплечнікі Міхалка, якія заснавалі гурт *Trubetskoy*, запрашэння далучыцца да праекту не атрымалі. І да гэтай навіны паставіліся з іроніяй: «Якая нечаканая і актуальная ідэя! Упэўнены, што і ўвасабленне будзе на такім жа вартым узроўні. Цікава даведацца, хто з складу «Ляпіса Трубяцкога» ўзору 1998 году будзе браць у гэтым удзел? Ці гэта мюзікл?» — зазначыў Яўген Калмыкоў, былы дырэктар і прадзюсар «Ляпіса Трубяцкога», а цяпер прадзюсар гурта *Trubetskoy*.

Першы выхад на сцэну музыкаў пад шыльдаю «Ляпіс-98» адбудзецца ўжо 21 красавіка ў Харкаве, у клубе «Корова».

**Tuzin.fm**

# Касманаўт Лявонаў назваў вінаватага ў гібелі Гагарына

Лётчык **Су-15 не заўважыў** самалёт з першым касманаўтам.

27 сакавіка 1968 года, у дзень гібелі першага касманаўта Юрыя Гагарына, касманаўт Аляксей Лявонаў знаходзіўся на аэрадроме Кіржач Уладзімірскай вобласці, адкуль Гагарын вылецеў на самалёце МіГ-15УТІ.

Праз некаторы час з аэрадрома пачулі выбух. «Мы стаялі каля КДП [камандна-дыспетчарскага пункта] і пачулі двайны выбух і звышгук. Інтэрвал паміж выбухам і звышгукам быў паўтары-дзве секунды», — распавёў Лявонаў. Лётчікі тады адразу вырашылі, што крыніца звышгуку — адзін аб'ект, а выбух — іншы.

У афіцыйным заключэнні прычынай крушэння МіГ-15 назвалі збліжэнне і рэзкае ўхіленне ад іншага самалёта, аднак сапраўдным вінаватым Лявонаў лічыць той невядомы самалёт. «Адназначнай прычынай гібелі стаў лётчык, які апусціўся ніжэй за 400 метраў пад аблокі, уключыў фарсаж і прайшоў побач, не пабачыўшы Гагарына. Гэта быў самалёт Су-15, ён прайшоў на адлегласці 10—15 метраў на хуткасці гуку, абуранай плынню перакуліў самалёт Гагарына», — заявіў касманаўт.

Лявонаў таксама згадваў ліст, напісаны ўдзельнікамі расследавання. У ім была просьба не афішаваць абставіны трагедыі, каб не падвяргаць рэпрэсіям лётчыка Су-15, падначаленага Андрэя Тупалева.

Афіцыйныя высновы камісіі, якая расследавала гэта здарэнне, былі такія: экіпаж (Гагарын і лётчык-інструктар Уладзімір Сярогін) з-за зменenай паветранай абстаноўкі (падрабязнасці не ўдакладняліся) здзейсніў рэзкі манеўр і сарваўся ў штопар. Нягледзячы на спробы лётчыкаў вывесці машыну ў гарызантальны палёт, самалёт сутыкнуўся з зямлёй, экіпаж загінуў. Адсутнасць выразнай апублікаванай афіцыйнай версіі і аб'ектыўных доказаў спарадзіла мноства здагадак і неафіцыйных версій гібелі лётчыкаў.

**СМ**

# Беларуская вёска як самы антыбеларускі элемент

Піша Антось Звычайны.

Гэты артыкул не адносіцца да ўсіх без выключэння жыхароў беларускай вёскі, і падганяць усіх і кожнага пад нейкія штампы няслушна і нават шкодна, але цалкам магчыма вывесці пэўныя заканамернасці.

Беларуская вёска — самы антыбеларускі элемент. Безумоўна, сама назва гучыць даволі правакацыйна і нават рэжа вуха, аднак ці ўсё так проста? Людзі, знаёмыя з гісторыяй нашай краіны, добра ведаюць, што канчатковае станаўленне беларускай нацыі адбывалася ў вёсцы. Вёска з'яўляецца калыскай беларускага народа, адтуль у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, а не з гарадскога асяроддзя, як гэта адбывалася збольшага ў іншых еўрапейскіх народаў, паўстала наша нацыя. Частка адраджэнцаў у канцы XX стагоддзя, калі наша краіна здабывала незалежнасць, ускладала вялікія надзеі менавіта на вёску як на сацыяльны феномен, у якім яшчэ не адбылася масавая русіфікацыя, што да таго часу ўжо паспела адбыцца ў беларускіх гарадах (знакамітая формула Дубаўца «Мова. Вёска. Вільня»). Масавая ўрбанізацыя Беларусі не прынесла беларускай мовы ў горад, а знішчыла яе паўсюдна.

На мой погляд, гэты працэс наклаўся на глыбокую гістарычную глебу ў псіхалогіі цэлага народа. Да гэтага адносіцца, напрыклад, вялікая колькасць польскамоўнай шляхты, рускамоўнага дваранства. У выніку мы атрымалі стэрэатып аб тым, што беларуская мова ёсць мовай «мужыцкай», нечым местачковым. Шмат у чым гэты штамп у сябе ўвабрала беларуская культура пачатку XX стагоддзя. Цікава тое, што за савецкі час тэрмін «мужыцкая мова» трансфармаваўся (і існуе да сённяшняга дня ў некаторых галовах) у тэрмін «калгасная мова». Адбылося гэта пад уплывам сацыяльных рэалій накшталт калектывізацыі, але па сутнасці дадзены штамп не змяніўся. Аднак перанясёмся ў сённяшні дзень і пяройдзем непасрэдна да тэмы артыкула. На дадзены момант я студэнт, які атрымлівае гуманітарную адукацыю ў адной з мінскіх ВНУ, і да разважанняў на гэту тэму мяне падштурхнулі менавіта людзі, якія мяне атачаюць. Каб вы маглі ўявіць, гэта людзі, якім сёння 18—22 гады, то бок народжаныя ўжо ў незалежнай Беларусі.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Часам, прыгледзеўшыся да аднаго чалавека, можна зразумець псіхалогію вялікіх груп людзей. Для мяне такім чалавекам стала староста адной з груп, дзяўчынка, якой няма і 20-ці. Адзін з абавязкаў старасты — адзначаць наведвальнасць студэнтаў, і калі іншыя старасты дазвалялі сабе «прыкрываць» пэўныя прагулы іх аднагрупнікаў, то староста гэтай групы вылучалася вялікай прынцыповасцю, адзначаючы ўсіх, за што заслужыла вялікую нелюбоў сваіх жа аднагрупнікаў. Дзяўчынка гэтая — з невялікай вёскі ў Магілёўскай вобласці, з'яўляецца зацятай актывісткай БРСМ і рознай афіцыйнай самадзейнасці. І вось, у адной з размоў пра прычыны яе такой прынцыповасці ў параўнанні з іншымі, я пачуў, здаецца, сакральную фразу: «Я не хочу возвращаться в свою деревню работать, я хочу остаться работать в Минске, я в университете, если я буду всех отмечать, администрация будет видеть, что я им предана, и будет считать, что я им буду нужна тут».

Проста асэнсуйце, такімі словамі кажа дзяўчына, якой няма і 20-ці. Падумайце, хіба гэта не псіхалогія вялікага пласта людзей у нашай краіне? Сённяшняя ўлада вельмі добра разумее гэту псіхалогію, таму што і сама адтуль паходзіць. Каб задаволіць патрэбу гарадской інтэлігенцыі, пратасярэдняга класа, уладзе патрэбна ствараць пэўныя матэрыяльныя ўмовы і нешта нават большае. Згодна з пірамідай Маслоў, патрэбы гэтага класа даволі высокія, але з прычын дзейснай палітыкі задаволіць іх немагчыма. У процівагу для вялікай часткі людзей з вёскі дастаткова стварыць умовы «па 500» і «абы не вяртацца ў сваю вёску». То бок патрэбы вялікай часткі вяскоўцаў нашмат ніжэйшыя, чым у гарадскога насельніцтва.

Аб'ектыўна ўзровень жыцця на вёсцы куды ніжэйшы, чым у горадзе, і чалавек, які вырываецца з усяго гэтага, безумоўна, бу-дзе вельмі ўдзячны таму, хто ў гэтым яму дапамог. Менавіта таму дзейная ўлада зрабіла стаўку на вясковае насельніцтва. Створаныя прэферэнцыі для паступлення вяскоўцаў у ВНУ, на вышэйшых пасадах людзі выключна з вясковым паходжаннем, за вельмі рэдкім выключэннем. Калі ў СССР было важным сялянска-пралетарскае паходжанне, то ў сённяшняй Беларусі, можна сказаць, негалосна дзейнічае важнасць сялянскага паходжання кіраўніка. Улада ведае, куды трэба ціснуць, і ціснe.

Цікавай тэмай для разважанняў і статыстычных падлікаў для мяне ў ВНУ стаў такі рытуал, як уступленне ў БРСМ. Па традыцыі яно ў нас добраахвотна-прымусовае, хоць пры пэўнай настойлівасці ад цябе могуць і адчапіцца. Уся плынь (усе групы з аднаго факультэта і курса) складае 90 чалавек, з іх 37 чалавек з'яўляюцца жыхарамі сельскай мясцовасці. І вось, верасень месяц, яшчэ зялёныя студэнцікі сядзяць у аўдыторыі, слухаючы першыя лекцыі ў сваім жыцці, толькі становяцца на новы шлях. А хто ім можа дапамагчы ў гэтым? Вядома, універсітэцкая суполка БРСМ, якая абяцае шмат саладкіх пернікаў, а тым, хто не захоча з імі быць, — бізун. Па выніку бізун яны паабяцалі выкарыстаць у адносінах да 7 чалавек з 90, але самая галоўная цікавостка ўласна ў тым, што з гэтых 7 чалавек не аказалася ні аднаго вяскоўца, што не выглядае нейкім супадзеннем.

Для чысціні эксперыменту я сабраў падобную ж інфармацыю са старэйшага і малодшага за мяне курсаў, і вось якія лічбы я атрымаў. Старэйшы курс — 96 чалавек, з іх 39 — вяскоўцы, 5 чалавек не знаходзяцца ў БРСМ, усе жыхары горада. Малодшы курс — 73 чалавекі, з іх 25 вяскоўцаў, у БРСМ не знаходзіцца 5 чалавек, і толькі тут адзін з іх вясковец. Тут у галаву прыходзіць фраза аднаго крамлёўскага прапагандыста: «Супадзенне? Не думаю». Вельмі зручна падобную інфармацыю знаходзіць менавіта ў ВНУ, бо ў іх вядзецца статыстыка адносна вясковага/гарадскога складу навучэнцаў, ці ўступіў той ці іншы чалавек у БРСМ, прафкам і г.д.

Чытач можа задацца пытаннем: а што ўласна антыбеларускага тут? Па гэтай статыстыцы відаць, што вялікая колькасць вясковай моладзі прытрымліваецца вельмі канфармісцкага светапогляду, так бы мовіць, прыстасоўваецца да навакольнай рэчаіснасці.

Іншыя назіранні тычацца стаўлення моладзі да беларускай мовы. І тут зноў жа розніца паміж гарадской і вясковай моладдзю даволі адчувальная. Няпроста зразумець чаму, але студэнты з горада, пачуўшы, што ты размаўляеш з імі па-беларуску, ставяцца да цябе з нейкай асаблівай павагай, кажучы пра тое, што самі хацелі б размаўляць па-беларуску, але з пэўных прычын не наважваюцца, і г.д. Аднак зусім іншае стаўленне я бачу ад вялікай колькасці студэнтаў з вёскі. Пачуўшы беларускую мову, яны глядзяць на мяне як на дзівака і дзікуна, менавіта ад той дзяўчынкі-старасты я пачуў штосьці падобнае да слоў «мне белорусский не нравится, он колхозный». Словы ж па-беларуску яна выкарыстоўвае, выключна каб высмеяць нешта беларускае. Такое стаўленне — нейкае нават агрэсіўнае — я сустракаў ад вясковай моладзі вельмі і вельмі часта.

Тое самае можна сказаць адносна палітыкі. Калі ў гарадской моладзі стаўленне да ўладаў альбо абыякавае (пераважна), альбо негатыўнае, то ў вясковай моладзі яно іншае. У асноўнай масе — таксама абыякавае, аднак часта сустракаецца і пазітыўнае. Ізноў вяртаючыся да нашай галоўнай гераіні часта ў яе мове можна пачуць: «Эти змагары!» Нічога не нагадвае?

Большасць вясковай моладзі сёння проста ненавідзіць беларушчыну, у адрозненне ад значнай колькасці гарадской моладзі. Вось вам і «рускі са знакам качэства». Чаму так сталася і хто ў гэтым вінаваты? Афіцыйная прапаганда? Пэўныя псіхалагічныя комплексы? Мне здаецца, што гэтыя прычыны тут наклаліся адна на адну. Такім чынам беларуская вёска ў XXI стагоддзі ператварылася з калыскі беларускай нацыі ў самы яе антыбеларускі элемент, у месца, дзе бяруцца галоўныя кадры для сённяшніх уладаў, дзе да беларускай мовы моладзь ставіцца як да нечага варожага. Фактычна, сёння горад і вёска пачынаюць мяняцца месцамі ў параўнанні з 60—70-мі гадамі XX стагоддзя. Менавіта ў коле гарадской інтэлігенцыі, гарадской вучнёўскай моладзі, самых розных хіпстараў цэпліцца беларушчына сёння. Беларускаму руху вельмі важна зразумець, як вырваць вясковую моладзь з рук уладаў, стаўка робіцца на яе. Без гэтай, самай апошняй сваёй апоры, ва ўлады няма будучыні.

**Антось Звычайны** — студэнт 5 курса Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта.

# Вёска? Самы беларускі элемент!

Адказвае Васіль Герасімчык.

*«І што ты глядзіш на сучок у воку брата твайго, а бервяна ў тваім воку не адчуваеш?»*

1. Праблема ўспрымання «беларушчыны», у якасці крытэра якой разглядаю Купалаў верш «Ворагам беларушчыны», у нашым грамадстве ляжыць далёка не ў «вёсцы» як прасторы, а на ўзроўні мыслення ў глыбока закладзеных стэрэатыпах, кшталту «калгаснай мовы» і «калхознік». На жаль, мы самі працягваем іх культываваць, коўзаемся ў іх, быццам у брудзе ўласнай недасканаласці, замест таго, каб напоўніць іх новым змесцівам.

2. Беларуская традыцыйная культура — гэта перш за ўсё культура, прастора якой — «вёска», а галоўны герой — «селянін». Час змяніўся, успрыманне тэкстаў змянілася. Класіка згубіла прыцягальнасць праблемаў душэўнага змесціва чалавека і ўспрымаецца толькі праз форму. Сёння далёка не кожны будзе шукаць глыбокі падтэкст, напрыклад, актуальнага і сёння купалаўскага «Мужыка» пачатку XX стагоддзя. У моладзі новыя героі, якія былі сфармаваныя ў асяроддзі «горада», «вуліцы», цяпер «сеціва». Месца вёсцы ў гэтай сістэме каардынат не засталося.

3. Менавіта «горад» з'яўляецца згубным для «вёскі», якая не ў стане выйграць у яго канкурэнцыю за моладзь. «Горад» асацыюецца з пэўнымі «выгодамі», цікавым баўленнем часу, пэўнай палёгкай у ладзе жыцця і занятках. На жаль, гэтыя стэрэатыпы працягваюць культывавацца, застаючыся прыцягальнымі для падрастаючага пакалення. Дзяржава не ў стане з імі змагацца, нават коштам арганізацыі аграгарадкоў, таму працэс урбанізацыі працягваецца.

4. Частка моладзі, якая накіроўваецца ў горад па «лепшае жыццё», загадзя рыхтуецца да адмаўлення сваёй "вясковай" ідэнтычнасці, сваіх каранёў, паколькі лічыць, што новы гарадскі асяродак — гэта антонім таго, дзе яны гадаваліся папярэдне. Але ў гэтым плане малады чалавек дзейнічае ў адпаведнасці з той мэтай, якая закладалася ў яго з маленства, — «выбіцца ў людзі».

5. Вясковая моладзь — гэта перш за ўсё «пасіянарыі», якія імкнуцца праз самарэалізацыю дасягнуць пэўнага сацыяльнага статусу. І тут не справа ў інтэлектуальных або фізічных здольнасцях. Гэта на ўзроўні характару. Ім увесь час неабходна даказваць, што яны чагосьці вартыя ў новым для іх асяродку, дзе ў стане разлічваць толькі на сябе. Далучыцца і быць «актывістам» якой арганізацыі, кшталту БРСМ, прафкама або каманды — гэта, насамрэч, важная праява сацыялізацыі і выпрабаванне ўласных здольнасцяў, першая прыступка на кар'ерным шляху. Што ў гэтым дрэннага? Наадварот.

6. На ўспрыманні «беларушчыны» згубна адбіліся адносіны ў нашым грамадстве ў 1990-я гады, калі «беларуская мова» пачала асацыявацца як прыкмета «апазіцыянера». На жаль, гэты стэрэатып да сёння існуе ў грамадстве і з'яўляецца вельмі згубным для яго. Але ў вёсцы ўсё роўна застаецца «свая» мова.

7. Беларусь будзе існаваць да таго часу, пакуль будзе існаваць беларуская вёска.

Для «горада» беларушчына — гэта толькі трэнд, мода пэўнай колькасці гараджан, у іх імкненні чымсьці заняць вольны час, які б у вёсцы займалі, напрыклад, працаю на гародчыку. І далёка не заўсёды дэманстратыўная беларушчына з'яўляецца паказальнікам сапраўднай. У той час як у вёсцы людзі ў большасці выпадкаў нават не задаюцца такім пытаннем, працягваючы размаўляць па-свойму, працаваць для таго, «каб не было вайны» і проста жыць.

P.S. А «нянавісць» да беларушчыны, пра якую казаў Антось Звычайны — гэта занадта моцнае слова, бо яго адчуваць насамрэч. Як і пазнакі «большасць вясковай моладзі» vs. «значная колькасць гарадской моладзі». Усё гэта вельмі суб'ектыўна. І як бы хто ні казаў у горадзе, большасць беларускамоўных школ сканцэнтравана менавіта ў вёсцы. І дзякуючы ім вядзецца праца на карысць «беларушчыны». Як і дзякуючы дзяржаве, якая, асабліва ў апошнія гады, актыўна працуе ў дадзеным накірунку.

Нашая гісторыя вучыць нас толькі аднаму: мы заўсёды знаходзім вінаватых у нашай уласнай недасканаласці. На нашым цемечку ад самага нараджэння маецца адзнака дамоклавага мяча, якая прымушае нас лічыць сябе горшымі за іншых. Калі ж мы навучымся перш за ўсё параўноўваць сябе з самімі сабою, а ўжо пасля з іншымі?

**Васіль Герасімчык** — настаўнік гісторыі з Гродзенскага раёна.

# У Віцебску хлопец затрымаў п'янага палкоўніка міліцыі за рулём

Канфлікт адбыўся ў канцы лютага ўвечары. За рулём «Таёты» ехала настаўніца Аліна, яе хлопец Артур быў пасажырам. У другім аўтамабілі знаходзіліся пенсіянерка Ларыса і яе сын Сяргей — начальнік міліцыі аднаго з раёнаў Віцебска. Гэта тое, што ніхто з удзельнікаў канфлікту не аспрэчвае. А вось далей пазіцыі бакоў кардынальна разыходзяцца.

### Версія Артура

Хлопец і дзяўчына ехалі па Маскоўскім праспекце ў напрамку плошчы Перамогі ў трэцяй паласе. Пасля праезду скрыжавання з вуліцай Смаленскай на першым развароце «Хёндэ Саната» стварыў ім перашкоду для руху.

Як распавёў Артур, «Хёндэ» ледзь не ўрэзаўся ў іх — толькі дзякуючы экстранаму тармажэнню ўдалося пазбегнуць аварыі. Маладыя людзі дагналі гэты аўтамабіль, і Артур жэстам паказаў кіроўцу, каб ён апусціў шкло, аднак той спыніўся ў чацвёртай паласе. Аліна, каб не перакрываць дзве паласы праспекта, праехала наперад і ўстала спераду.

Калі хлопец падышоў да «Хёндэ», кіроўца — па словах Артура, гэта быў мужчына, — спытаў: «Дзяўчына, што здарылася?» У ходзе непрацяглай гутаркі, кажа Артур, ён зразумеў, што мужчына моцна п'яны: «У салоне аўто быў ўстойлівы пах алкаголю, гаворка кіроўцы была няскладнай, вочы — чырвонымі». На заднім сядзенні была пажылая жанчына: яна пачала скардзіцца на дрэннае самаадчуванне і прасіла адпусціць іх.

«У нейкі момант вадзіцель увогуле паспрабаваў з'ехаць: вывернуў колы ў кірунку трэцяй паласы, але наш аўтамабіль, які стаяў перад ім, не дазволіў яму гэтага зрабіць. Пасля я выцягнуў ключы з замка запальвання і папрасіў Аліну патэлефанаваць у ДАІ», — кажа Артур.

Па словах Артура, кіроўца спачатку прапаноўваў яму «200—300 даляраў», каб хлопец не выклікаў ДАІ. А калі атрымаў адмову, пачаў паводзіць сябе агрэсіўна: сказаў, што «ён працуе ў міліцыі і ў нецэнзурнай форме абяцаў праблемы».

Калі прыехалі супрацоўнікі ДАІ, хлопец аддаў ім ключы ад чужога аўтамабіля. Інспектары павезлі кіроўцу «Хёндэ» і яго маці на медыцынскі агляд, а кіроўцу і пасажыру «Таёты» загадалі ехаць у ДАІ даваць паказанні.

«У ДАІ я даведаўся, што кіроўца «Хёндэ» сапраўды працуе ў міліцыі — ён палкоўнік, начальнік аднаго з РАУС, — кажа Артур. — Таксама мне паведамілі, што агляд паказаў: ён быў моцна п'яны».




Аўтамабіль «Хёндэ», у якім ехаў палкоўнік міліцыі з маці. Яны стаяць справа.




Сяргей С. і Ларыса С. у калідоры суда.

### Версія затрыманых

У машыне, якую спыніў Артур, былі палкоўнік міліцыі Сяргей С. разам з 65-гадовай маці Ларысай. Па словах маці, зафіксаваных у пратаколе затрымання, сітуацыя разгортвалася з дакладнасцю да наадварот. Яна сцвярджае, што сама была за стырном машыны, якая належыць нявестцы. А паколькі дрэнна сябе адчувала, дык, маўляў, сын Сяргей сеў у машыну ў якасці пасажыра — каб падстрахаваць. Чаму сын не сеў за руль замест маці, калі быў цвярозы, ці як ён збіраўся вярнуцца на аўтамабілі ад дома маці да свайго, калі быў п'яны, у дакументах праверкі не адлюстравана.

З паказанняў пенсіянеркі Ларысы С., з пратаколу апытання вынікае, што яе машыну спыніла «Таёта». Адтуль выйшаў хлопец, які «вёў сябе неадэкватна і абражаў яе». Калі яна пацягнулася па торбу на заднім сядзенні, хлопец выхапіў ключы з замка запальвання. Пасля гэтага яна выйшла з аўтамабіля да хлопца, той працягваў абражаць яе. У гэты момант з аўтамабіля выйшаў Сяргей С. і спытаў у хлопца, што здарылася. «У гэты момант хлопец пачаў патрабаваць перадачы яму грашовых сродкаў у памеры 300 даляраў», — кажа жанчына. Ларыса сцвярджае, што яе сын адмовіўся перадаваць хлопцу грошы, тады хлопец пачаў правакаваць яго на бойку і нецэнзурна лаяцца. Жанчына кажа, што абражаць яе з сынам і патрабаваць грошы хлопец працягваў і ў ДАІ.



Артур Я., які спыніў аўтамабіль з нецвярозым палкоўнікам міліцыі за рулём.

Сам начальнік РАУС Сяргей С. пры апытанні следчым цалкам пацвердзіў словы маці, дадаўшы, што, калі «прадставіўся хлопцу супрацоўнікам міліцыі, той стаў паводзіць сябе яшчэ больш агрэсіўна». С. сцвярджае, што «падчас канфлікту хлопец неаднаразова казаў, што скажа супрацоўнікам ДАІ, што аўтамабілем кіраваў ён, а не яго маці. Пасля таго як хлопец зразумеў, што плаціць яму ніхто не збіраецца, ён папрасіў дзяўчыну выклікаць супрацоўнікаў ДАІ».

### Версія сведкаў

Пасля канфлікту жонка Сяргея С. — Марына — звярнулася для вышуку сведак канфлікту на мясцовы тэлеканал. На аб'яву адгукнулася жанчына, якая нібыта разам з сяброўкай была на месцы канфлікту. Жанчына кажа, што бачыла, як з вадзіцельскага месца «Хёндэ» выйшла жанчына. Але яе сяброўка даваць паказанні адмовілася.

Яшчэ адна сведка — суседка сям'і міліцыянта — сцвярджае, што бачыла, як Ларыса выязджала на машыне, а Сяргей быў на пасажырскім месцы.

### Афіцыйна

Агляд пасля канфлікту паказаў, што Ларыса С. цвярозая, а вось яе сын Сяргей С. — п'яны: больш за 2 праміле алкаголю ў крыві. Палкоўніка міліцыі прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці, пазбавілі правоў за кіраванне аўто ў нецвярозым стане і прызначылі штраф у 20 млн рублёў. Сяргей С. збіраецца пастанову абскардзіць: ён сцвярджае, што за рулём быў не ён, а яго маці.

1 сакавіка ад пенсіянеркі Ларысы С. у Следчы камітэт паступіла заява, у якой яна прасіла прыцягнуць Артура да крымінальнай адказнасці па артыкуле «Вымагальніцтва».

Праведзеная СК праверка паказала, што ў дзеяннях пасажыра «Таёты» адсутнічаў склад злачынства, таму ў завядзенні крымінальнай справы было адмоўлена. Аднак следства скіравала матэрыялы ў ДАІ і АУС у дачыненні да вадзіцеля і пасажыра «Таёты» — за стварэнне аварыйнай сітуацыі і самавольства адпаведна. «Я з усіх экранаў і білбордаў бачу: спыні п'янага кіроўцу! Прадухілі бяду! Не заставайся абыякавым! Вось і спыніў на сваю галаву. Быў героем — раблюся злачынцам», — кажа Артур.

Справу аб стварэнні аварыйнай сітуацыі спынілі. Але 13 красавіка Следчы камітэт нечакана аднавіў праверку па факце вымагальніцтва Артурам грошай «у сувязі з нанова адкрытымі абставінамі».

Калі ў дачыненні да Артура будзе распачата справа за вымагальніцтва, яму пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

Палкоўнік Сяргей С. часова адхілены ад выканання абавязкаў.

Але 18 красавіка суд Чыгуначнага раёна Віцебска прызнаў Ларысу С. вінаватай у дачы лжывых паказанняў і аштрафаваў яе на 10 базавых — 2,1 млн рублёў. Суд за лжывыя паказанні чакае і сведку, якая заявіла, што бачыла, як Ларыса выйшла з вадзіцельскага месца.

Таксама стала вядома, што ўдзельнікам працэсу прапанавалі прайсці праверку на паліграфе. Артур і Аліна пагадзіліся — і прыбор не знайшоў хлусні ў іх словах. А палкоўнік міліцыі і яго маці адмовіліся ўдзельнічаць у праверцы.

**tut.by**

# 15 гадоў за забойства брата

Гродзенскі абласны суд вынес прысуд па рэзананснай справе. 17-гадовы хлопец асуджаны на 15 гадоў пазбаўлення волі. Ён прызнаны вінаватым у забойстве 5-гадовага брата, замаху на жыццё маці, а таксама ў падпале кватэры ў жніўні 2015.

Трагедыя здарылася ўвечары. У адным з шматпавярховікаў Гродна адбыўся пажар. Згасіўшы яго, пажарнікі знайшлі ў кватэры цела пяцігадовага дзіцяці. 39-гадовую маці дзіцяці ўдалося выратаваць, яна была шпіталізаваная.

Падчас агляду месца здарэння былі знойдзеныя доказы гвалтоўнай смерці дзіцяці і наўмыснага падпалу кватэры. Паводле папярэдняй інфармацыі, паміж 16-гадовым падлеткам і маці адбыўся канфлікт, падчас якога хлопец забіў малодшага брата і паспрабаваў пазбавіць жыцця маці. Палічыўшы, што яна памерла, ён падпаліў кватэру і збег.



Неўзабаве яго затрымалі. І вось вынік — хлопец правядзе за кратамі амаль столькі ж, колькі пражыў на свеце.

**УШ**

## Сцісла

### Агонь забраў два жыцці

Пры пажары ў цэнтры Мінска загінулі 100-гадовая жанчына і яе 66-я гадовая дачка. Адна з версій — агонь узнік з-за кароткага замыкання электраправодкі. У кватэры быў аўтаномны пажарны апавяшчальнік, але ён не спрацаваў, бо ў ім не было батарэйкі.

### Знайшлі труп салдата

У вайсковай часці Старых Дарог знойдзены труп салдата тэрміновай службы. Адна з папярэдніх версій — суіцыд.

### Зачыніў жонку ў пуні і падпаліў

У вёсцы Куравічы Навагрудскага раёна 47-гадовы гаспадар пасварыўся з жонкай. Тая, каб не абвастраць сітуацыю, пайшла з хаты ў пуню. Муж застаўся дома з трыма дзецьмі. Аднак праз нейкі час ён пайшоў следам, падпаліў у пуні сена і замкнуў дзверы. Жанчына засталася ўнутры. Самастойна выбрацца з пуні яна не магла, дапамог выбрацца 14-гадовы сын. Пабудова згарэла, падпальшчык у міліцыі. Дзяцей з сям'і забралі.

### У Салігорску знайшлі нежывое немаўля

На ачышчальнай станцыі ў Салігорску знайшлі фрагменты цела немаўляці. Цяпер ідзе экспертыза, шукаюць і маці.

### Сябра сям'і скраў грошы, якія адкладалі на вяселле

26-гадовы грузчык з Брэсцкай вобласці прыехаў у сталіцу да сябра і яго дзяўчыны. Пакуль тыя былі на працы, хлопец пачаў аглядаць кватэру. У шафе, у канверце, знайшоў 3200 даляраў і забраў. Прапажу выявілі ў той самы вечар. Госць з'ехаў дадому і спачатку адмаўляў, што браў грошы, але пасля прыйшоў у міліцыю з прызнаннем.

### Мужчыну завалiла грунтам на глыбіні 8 метраў

66-гадовы хлопец рамантаваў калодзеж ля сваёй хаты ў вёсцы Прылуцкая Слабада Мінскага раёна. Ён застаўся жывы, але атрымаў траўмы, цяпер шпіталізаваны.

### Высокапастаўлены супрацоўнік МНС затрыманы і знаходзіцца ў СІЗА КДБ

Першы намеснік начальніка Мінскага гарадскога ўпраўлення МНС Віталь Тулай быў затрыманы ў канцы 2015 года. У дачыненні да яго распачата крымінальная справа за незаконны ўдзел у прадпрымальніцкай дзейнасці і атрыманне хабару.

**УШ**

# Дзмітрый Танковіч: «Беларусь застыла, а Украіна стане еўрапейскай краінай»

Беларускі кавээншчык стаў адным з самых папулярных тэлевядучых Украіны.

**Заснавальнікі ўкраінскай кампаніі па вытворчасці гумарыстычнага кантэнту «Вавёркапрадакшн» — тры былыя ўдзельнікі знакамітай беларускай каманды Клуба вясёлых і кемлівых «ЧП». Адзін з іх — Дзмітрый Танковіч — сёння папулярны ўкраінскі тэлевядоўца. Ён пачынаў кар'еру на беларускім тэлебачанні, але не ўбачыў для сябе перспектыў.**

Дзмітрый нарадзіўся ў Мінску. Скончыў школу са срэбраным медалём. Атрымаў вышэйшую адукацыю ў БДЭУ па спецыяльнасці «ўлік, аналіз і аўдыт у банку». Цягам дванаццаці год быў удзельнікам каманды КВК «ЧП». Апошнія дзесяць год супрацоўнічае з украінскім тэлеканалам СТБ у якасці вядоўцы праектаў «Украіна мае талент», «Танцы з зоркамі», «Танцуюць усе!».

### «Я не гляджу КВК»

**— Вы пачыналі медыйную кар'еру з КВК. Што для вас гэтая гульня?**

— КВК — гэта маладосць, прыгоды і велізарны досвед. Але ў пэўны момант мы зразумелі, што выраслі і мусім зрабіць крок наперад. Было прыкра, што мы скончылі свой шлях за адзін крок да перамогі. Пасля заканчэння сезона мы ехалі на гастролі ў дэпрэсіі, з якой выбіраліся пару месяцаў. Сумныя былі канцэрты... Але ж здужалі. Цяпер, калі прайшло адзінаццаць год, я бачу, што гэтая незавершанасць стала магутным штуршком да самаразвіцця. Яна надала нам рашучасці і трохі злосці.

**— Пэўна, узнікае жаданне вярнуцца ў той час?**

— Бывае, калі збіраемся выпіць і пагутарыць, з'яўляюцца думкі: а паедзем, зробім канцэрт, успомнім маладосць! Але наступае раніца, усё становіцца на свае месцы.

**— Калі глядзіце КВК цяпер, напэўна, думаеце, што гульня ўжо не тая?**

— Я не гляджу КВК. Няма калі, ды, шчыра кажучы, баюся, што захлісне настальгія *(смяецца)*.

### «Беларускія каналы не змагаюцца за гледача»

**— Вы працавалі на беларускім тэлебачанні і нават у 2009 атрымалі ўзнагароду «Найлепшы вядоўца». Але ж неўзабаве мы бачым вас у Кіеве... Чаму так?**

— Мне, каб пачуваць сябе добра, трэба расці. Да таго ж развіццё непазбежна павышае ўзровень фінансавага спакою.

**— А расці ў Беларусі нельга?**

— Пры тых умовах, што там склаліся, развіццё для тэлебачання і для медыйнай персоны проста не прадугледжанае. Усе каналы дзяржаўныя, канкурэнцыі зусім няма. Яны не змагаюцца за гледача, не зацікаўленыя ў вытворчасці арыгінальнага кантэнту. Не ведаю, як цяпер, а калі я з'язджаў, нават з рэйтынгамі ніхто не працаваў. Не ведалі, што гэта і для чаго.



Адзін з папулярных тэлепраектаў на ўкраінскім тэлебачанні — «Танцы з зоркамі». Дзмітрый Танковіч — справа.

**— Ва Украіне інакш?**

— Тут амаль няма дзяржаўных каналаў. Тэлеканалы вымушаныя развівацца, бо інакш не выжывуць. Кожны ранак я праглядаю рэйтынгі праграм за мінулы дзень і адразу бачу, падабаецца мая праграма гледачу ці не.

**— Пэўны час пасля ад'езду вы працягвалі паралельна працаваць у Мінску. Ці плануюцца зараз нейкія сумесныя з БТ праекты?**

— Пачнём з таго, што нашыя топавыя праекты на СТБ, кшталту «Танцуюць усе!», ёсць у інтэрнэце. Іх глядзяць людзі з розных краін, у тым ліку з Беларусі. Я ведаю гэта дакладна, бо на кастынгі прыязджае шмат беларусаў.

У межах кампаніі «Вавёркапрадакшн» мы з задавальненнем супрацоўнічалі б з беларускім тэлебачаннем. Але пакуль не бачым зацікаўленасці.

У мяне склалася ўражанне, што Беларусь у нейкі момант застыла і дагэтуль знаходзіцца ў гэткім стане. Акрамя тэлебачання, тое тычыцца бадай што і ўсяго астатняга. Але мне хочацца верыць, што гэта пытанне часу.

### «Украіна стала мне роднай»

**— У Беларусі такія абставіны праз крызіс?**

— Фінансавыя складанасці — выдатная матывацыя падняць пятую кропку і пачаць нешта рабіць. Ва Украіне таксама хапае людзей, якія кажуць, што ім цяжка. Час крызісу — удалы для самаразвіцця: ён вымушае ўключыць галаву і пачаць рухацца. Але пройдзе яшчэ шмат часу і зменіцца не адно пакаленне, пакуль мы пачнём разумець, што наш дабрабыт залежыць не ад таго, хто і як кіруе краінай. Ён залежыць толькі ад нас.

**— Як тады спыніць «уцечку мазгоў» з нашай краіны?**

— Для таго, каб людзі не з'язджалі, іх краіна павінна быць краінай магчымасцяў. Роўных для кожнага.

**— А ці плануеце самі вярнуцца ў Беларусь?**

— Я для сябе не праводжу межаў: тут Беларусь, а тут Украіна. У мяне беларускі пашпарт, у Мінску жывуць мае маці і брат. Ва Украіне ў мяне жонка і дачка. Я ведаю беларускую мову, праўда, размаўляць на ёй тут няма з кім. Вучу ўкраінскую. Ні ў якім разе не адхрышчваюся ад Беларусі, але сваю будучыню звязваю з Украінай. Яна таксама стала мне роднай.

**— Нават вайна не паўплывала на планы?**

— Было вельмі страшна. Дагэтуль мне неспакойна за жонку і дачку. З іншага боку, я ведаю, што для Украіны гэта яшчэ адзін шанец. І маю надзею, што ён будзе выкарыстаны. Украіна перастане быць краінай «саўка» і стане еўрапейскай. Я вельмі веру ў гэта, і нішто не перашкаджае мне адкрыта выказваць сваю пазіцыю.

**Гутарыла Яна Ласка**

## У Мінску на грошы гледачоў паставілі «самы шчыры спектакль года»

15 красавіка на незалежнай сцэнічнай пляцоўцы ў Палацы мастацтваў адбылася прэм'ера першага беларускага спектакля, пастаўленага на народныя грошы. Рэжысёр Аляксандр Марчанка натхніўся п'есай Віталя Каралёва «Опіум» і прагназуе, што гэтая пастаноўка можа змяніць рэальнасць беларускай тэатральнай прасторы.

П'еса маладога драматурга Каралёва сабрала найлепшыя водгукі крытыкаў, якія назвалі яе «жывой» і «не па-беларуску шчырай». П'еса пра тое, як вайна ва Украіне і яе наступствы ўплываюць на цэлае беларускае грамадства і на свядомасць кожнага паасобку. Пра тое, што вайна ў галовах, на кухнях і прыпынках транспарту значна страшнейшая, чым у зоне сапраўдных баявых дзеянняў. Спектакль на такую тэму немагчыма ўявіць сабе ў дзяржаўных тэатрах, таму была выбрана альтэрнатыўная пляцоўка. У інтэрнэце, на краўдфандынгавай платформе «Вулей», за некалькі месяцаў сабралі грошы на спектакль: на дэкарацыі, касцюмы ды іншыя патрэбы. Праект прафінансаваў 136 чалавек.

Спектакль разлічаны на ўзроставую катэгорыю 18+. «Калі я пісаў п'есу, я не абмяжоўваў сябе самацэнзурай, унутранымі забаронамі, — кажа Віталь Каралёў. — Пісаў, не спадзеючыся, што гэта будзе пастаўлена. Увогуле, я супраць мату на сцэне, але тут ненарматыўная лексіка дарэчы. Калі б яе там не было, я б не змог сказаць, што быў шчыры з сабой».

Напярэдні паказу і прэм'еры білеты не прадаваліся, спектакль паказваецца выключна для людзей, якія яго прафінансавалі. Адсачыць, калі і дзе наступны раз пакажуць гэтую пастаноўку, можна ў інтэрнэце, на старонцы Цэнтра візуальных ды выканаўчых мастацтваў «Арт-Карпарэйшн».

**ЯЛ**



**In memoriam**

## Вітаўт Мартыненка

Памёр музычны крытык, які ў 1980-я першым пачаў раскручваць беларускамоўны рок.

Ён адышоў 17 красавіка пасля шматгадовага змагання з цукровым дыябетам. Яму было 56 гадоў. У Вітаўта Мартыненкі засталася 25-гадовая дачка Альдона.

«Сышоў сапраўдны архіварыус беларускай незалежнай музыкі. Пасля яго застаўся вялізны архіў артыкулаў як яго аўтарства, так і іншых музычных крытыкаў — ён усё гэта збіраў. Таксама ў яго грунтоўная калекцыя вінілаў. Шкада, калі гэта прападзе. Гэта ўнікальны здабытак беларускай музычнай культуры», — сказаў яго сябар і калега Анатоль Мяльгуй.

Вітаўт Мартыненка нарадзіўся 29 верасня 1959 у Мінску. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Ад 1983 да 1994 працаваў карэспандэнтам, адказным сакратаром, намеснікам галоўнага рэдактара моладзевай газеты «Чырвоная змена», рэдагаваў там музычную рубрыку.



Тады сама, у сярэдзіне 1980-х, Вітаўт Мартыненка ўваходзіў у раду моладзевых нефармальных суполак, удзельнічаў у «Талацэ», «Тутэйшых». Яго можна, сярод іншай моладзі, бачыць у першым беларускім рок-кліпе — на песню «Ура!» гурту «Бонда». Разам з Анатолем Мяльгуем Вітаўт быў сярод стваральнікаў незалежнага музычнага рок-клуба «Няміга», у які ўвайшлі восем рок-гуртоў, у тым ліку «Мроя» Лявона Вольскага. Асноўнай дзейнасцю рок-клуба была арганізацыя фестываляў двойчы на год — у дні народзінаў Рычы Блэкмара і Джымі Хендрыкса.

На хвалях радыё «Свабода», карэспандэнтам якога Мартыненка быў ад 1989 да 1995, ён арганізаваў беларускі музычны хіт-парад.

Выданне Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя «Праз рок-прызму» (1989) было першай для Беларусі публікацыяй такога кшталту — зборнік артыкулаў і інтэрв'ю, падабраных для маладых беларускіх меламанаў. Аўтары падкрэслівалі супрацьстаянне афіцыйнай ідэалогіі і рок-музыкі. Разам з Мяльгуем Мартыненка склаў і энцыклапедыю беларускага року — «222 альбомы беларускага року і не толькі». Кніга выйшла ў 2006 годзе.

Мартыненка быў нязручным, яго называлі фрыкам, крытыкавалі за «вузкасць погляду», фанатычную беларускасць. Ён горача адстойваў сваю пазіцыю на інтэрнэт-форумах дый у жывых спрэчках падчас продажу дыскаў на канцэртах. З таго продажу ён жыў.

Наведнікаў беларускіх канцэртаў больш не будзе сустракаць гэты трохі дзіўны рокер, які не граў музыку, але ведаў пра яе ўсё.

**СМ**

# Глабальная бітва за Еўропу

**Нямецкі гісторык Аляксандр фон Плата расказаў у Мінску пра таемныя спружыны ўз'яднання Германіі — падзеі, якая змяніла свет у пачатку 1990-х.**

14 красавіка ў мінскай Гістарычнай майстэрні імя Леаніда Левіна адбылася лекцыя «Аб'яднанне Германіі — глабальная бітва за Еўропу». Яе чытаў сусветна вядомы нямецкі гісторык і філосаф Аляксандр фон Плата. Ён пагутарыў з больш як сотняй палітыкаў, дыпламатаў найвышэйшага рангу — людзей, ад якіх, як адзначыла арганізатар сустрэчы, гісторык Ірына Кашталян, пачуць праўду складаней за ўсё. Па выніках гэтых інтэрв'ю была створаная серыя дакументальных фільмаў «Адзін год: 1989».

## Кожны — галоўны

Большасць тых, хто карыстаецца метадамі вуснай гісторыі, фіксуе сведчанні «маленькіх людзей», вывучаючы так уздзеянне вялікіх падзей на жыццё грамадства. Аднак спадара фон Плата цікавяць вялікія падзеі і іх удзельнікі.

Адзіная пісьмовая крыніца па працэсах ўз'яднання Германіі — дыпламатычныя пратаколы. Яны і блізка не даюць гісторыку той карціны, якую дае інтэрв'ю. Тут можна даведацца пра нефармальныя рэчы, якія часам гралі ключавую ролю, пра тое, як палітыкі ацэньвалі адзін аднаго.

Многае могуць сказаць манера і спосаб падаць сябе, расказвае фон Плата: «Калі мы прыехалі ў Тэхас здымаць інтэрв'ю з экс-дзяржсакратаром ЗША Джэймсам Бэйкерам, ён запрасіў нас у інстытут свайго імя, дзе на ўваходзе нас сустрэлі бюсты яго і яго жонкі. У яго кабінеце пісьмовы стол знаходзіўся на ўзвышэнні, і мне давялося б гутарыць з Бэйкерам, гледзячы на яго знізу ўверх. Я прапанаваў перайсці ў іншае памяшканне. Там стол ужо стаяў звычайны, а ўсе сцены былі абвешаныя карыкатурамі на Бэйкера».

**Дзіўная наіўнасць Гарбачова**

Доктар фон Плата, які гутарыў з Гарбачовым, адзначае дзіўную наіўнасць былога прэзідэнта СССР. Ён марыў пра адкрытую дыпламатыю, калі б кожны палітык адкрыта казаў, што думае, абмяркоўваў бы гэта з усімі як з роўнымі партнёрамі. Гэта сімпатычна, адзначыў лектар, але дзіўна, што Гарбачоў мог у такое верыць.

**Выхаванец Тэтчар**

Цікава, што як свайго выхаванца Габачова разглядала Тэтчар. Яны стэлефаноўваліся, кансультаваліся. Іх адносіны аказаліся пад пагрозай, калі ў краінах Балтыі пачаліся выступленні. Для Захаду савецкая ўлада ў Балтыі заўжды выглядала як часовая з'ява, прыкрае наступства пакту Молатава-Рыбентропа. У лютым 90-га Тэтчар тэлефанавала Гарбачову і пераконвала не ўводзіць войскі ў краіны Балтыі — гэта б узмацніла так званых «ястрабаў» у савецкім кіраўніцтве, прыхільнікаў гвалтоўных дзеянняў.



«Бацькі адзінства»: помнік Бушу, Гарбачову і Колю ў цэнтры Берліна.



**Аляксандр фон Плата**

гісторык, заснавальнік і дырэктар «Інстытута гісторыі і біяграфіі» ў Адкрытым універсітэце Хагена, Германія (да 2007), сузаснавальнік і сувыдавец часопіса па біяграфічных даследаваннях і вуснай гісторыі BIOS, сузаснавальнік «Міжнароднай вуснагістарычнай асацыяцыі». Мае шматлікія публікацыі, фільмы і інсталяцыі па тэмах: сучаснасць, ментальнасць і вуснагістарычны метад, апошняя дэкада аб'яднання Германіі, дысідэнцтва ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, прымусовая праца падчас Другой сусветнай вайны.

Кожны з палітыкаў імкнуўся паказаць сябе рухавіком палітычных працэсаў. Напрыклад, з інтэрв'ю дарадца Тэтчар вынікала, нібы менавіта «жалезная лэдзі» кіравала ў сусветнай палітыцы, Рэйган ваду падносіў, а іншыя ўвогуле былі ўпрыгожваннем на сценах, з усмешкай кажа прафесар.

## Цяжкі шлях

Уз'яднанне Германіі, на думку фон Плата, было гвалтоўным канфліктам. Сведчаннем глыбокага крызісу ГДР у канцы 1980-х сталі масавыя ўцёкі грамадзян з краіны. Усходнія немцы перапоўнілі пасольствы ФРГ ва Усходнім Берліне, Празе і Варшаве. Да верасня 1989 прыём бежанцаў з ГДР спыніўся — такі быў іх наплыў. Суседнія краіны, праз тэрыторыю якіх немцы спрабавалі трапіць у ФРГ, цягнікамі вывозілі іх на радзіму, у ГДР. Па дарозе здараліся канфлікты, напрыклад крывавая сутычка ў Дрэздэне.

Камуністычнае кіраўніцтва ГДР, баючыся страціць кантроль над сітуацыяй, вымушанае было легалізаваць апазіцыю. І ўжо ў канцы 1989-га апазіцыйныя групоўкі маглі сабраць мільён подпісаў з патрабаваннем палітычнага прызнання.

## «Міхаіл Сяргеевіч, ГДР — ваша дзіця»

6 кастрычніка 1989 Гарбачоў прыехаў на святкаванне 40-годдзя ГДР. Ужо тады паміж Гарбачовым і Хонэкерам была нацягнутасць. Калі савецкая дэлегацыя прызямлілася ва Усходнім Берліне, то пабачыла дэманстрантаў з прагарбачоўскімі лозунгамі, тое ж было і на шляху дэлегацыі. Сярод усіх дэманстрантаў толькі адзін стаяў з плакатам у падтрымку Хонэкера. Можа, гэта і легенда, адзначыў лектар, але яна паказвае настроі ў ГДР. На вечаровай імпрэзе калона нямецкага камсамолу, якая праходзіла перад Габачовым, раптам пачала скандаваць: «Горбі, выратуй нас!»

Па ад'ездзе савецкай дэлегацыі ў ГДР пачаліся сур'ёзныя зрухі. Па-першае, улады ўпершыню разагналі апазіцыйную дэманстрацыю. Па-другое, апазіцыйная частка палітбюро змясціла з пасады старшыню Эрыха Хонэкера. На яго месца ставяць Эгана Крэнца. Ужо ў першы візіт да Гарбачова Крэнц намаляваў рэалістычную карціну становішча ў ГДР. Раней Гарбачова запэўнівалі, што ў ГДР палітычная і эканамічная стабільнасць — а ён рады быў верыць, асабліва на фоне падзей у СССР. Крэнц тады сказаў: «Міхаіл Сяргеевіч, ГДР — ваша дзіця. Вы ўсё яшчэ прызнаяце бацькоўства?» Гарбачоў адказаў: «Зразумела, прызнаём. Ніводзін палітык ад Буша да Андрэоці не падтрымае ўз'яднанне Германіі».

Але адначасова Гарбачоў раіў Крэнцу наладжваць сувязі з ФРГ — эканоміка СССР не магла больш дапамагаць Усходняй Германіі. Улады Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі ўспрынялі збліжэнне Германій з трывогай: асцерагаліся парушэння балансу сілаў у свеце.

## Кур'ёз, які запусціў уз'яднанне

Калі ў Бон на сустрэчу з дарадцам кіраўніка ФРГ Гельмута Коля прыехаў дарадца Гарбачова Мікалай Партугалаў, ён прывёз дзве паперы: афіцыйную — пра разрадку ды падтрыманне добрых стасункаў з Захадам і паўафіцыйную, званую ў дыпламатыі *non-paper*. У ёй было сфармулявана пытанне: калі аб'яднанне Германіі адбудзецца, дык на якіх умовах і які ўдзел у гэтым працэсе возьмуць НАТА і ЗША? У Боне былі ў шоку: яны не чакалі, што ў СССР думка пра ўз'яднанне Германіі зайшла настолькі далёка!

Падчас інтэрв'ю гісторык выявіў, што той паўафіцыйны дакумент склаў сам Партугалаў з уласнай ініцыятывы, у нумары бонскага гатэля напярэдадні сустрэчы. Вынікам кур'ёзу стала абвяшчэнне канцлерам ФРГ Гельмутам Колем праграмы «10 пунктаў», у якой гаварылася пра неабходнасць пераадолець падзел Германіі і падзел Еўропы.

## «Таўстун захоча і гэта вярнуць!»

Праграма «10 пунктаў», з сённяшняга гледзішча не такая і радыкальная, прагучала як выбух бомбы для сусветных лідараў. «Так бы з намі не паводзіў сябе нават Гітлер!» — зазначыў міністр замежных спраў СССР Эдуард Шэварнадзэ.

Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Маргарэт Тэтчар была раз'юшаная. Падчас нефармальнай сустрэчы з прэзідэнтам Францыі Франсуа Мітэранам яна дастала мапы Еўропы 1937 і 1989 гадоў і, стукнуўшы кулаком па тэрыторыі, якая пасля Другой сусветнай адышла ад Германіі да Польшчы, сказала: «Вось пабачыце, таўстун [Гельмут Коль — **Рэд.**] захоча і гэта ўсё вярнуць!» Мітэран падтакваў, але насамрэч яго аб'яднанне Германіі не палохала. Ён асцерагаўся толькі, што яно пойдзе занадта хутка і зашкодзіць працэсу інтэграцыі Еўропы.

Затое прэзідэнт ЗША Джордж Буш-старэйшы ўзрадаваўся. Ён імкнуўся выцесніць СССР з палітычнай сцэны і збіць папулярнасць Гарбачова. Праз тры дні пасля абвяшчэння «10 пунктаў» Буш адзначыў, што аб'яднанне Германіі адбудзецца дэмакратычным і мірным шляхам і пройдзе пад дахам НАТА. СССР абурыўся, аднак быў бяссільны.

Прафесар фон Плата паказаў вымушаную эвалюцыю стаўлення СССР да аб'яднання Германіі: за суіснаванне сацыялістычнай і капіталістычнай Германій — да 24 студзеня 1990; за аб'яднанне Германіі пры ўмове вываду амрыканскіх войскаў з Еўропы — пасля 24 студзеня. У канцы студзеня Гарбачоў быў згодны на ўз'яднанне пры ўмове стварэння нейтральнай «новай Германіі». А ў сакавіку 1990 СССР прапанаваў ліквідаваць Варшаўскі блок і НАТА і стварыць новую сусветную арганізацыю, у якую аб'ядналіся ЗША, СССР і Еўропа. Калі б гэта прапанова была выказаная раней, адзначае фон Плата, гісторыя магла б пайсці зусім іншым шляхам.

## Дыпламатыя ў піжамах

11 лютага 1990 падчас канферэнцыі ў Атаве было вырашана стварыць групу для падрыхтоўкі аб'яднання Германіі ў фармаце «2+4»: ГДР, ФРГ + Вялікабрытанія, ЗША, СССР, Францыя. Для падпісання дамовы ўсе бакі сабраліся ў Маскве. У ноч напярэдадні прадстаўнік Вялікабрытаніі Вестэрн звярнуўся да дзяржсакратара ЗША Бэйкера з прапановай дамагчыся дыслакацыі 70-тысячнага войска НАТА на тэрыторыі ГДР. Калі ідэю агучылі ў шырокім коле, Шэварнадзэ папярэдзіў: «Пастаўце пытанне на парадак дня — мы адмаўляемся ад усяго, пра што было раней дамоўлена».

Па начной Маскве нямецкая дэлегацыя на чале з Дытрыхам Геншэрам ішла ў гатэль, дзе спыніліся амерыканцы. Начны парцье не змог іх стрымаць. Хутка ўся амерыканская дэлегацыя ў піжамах і халатах спусцілася ў хол. Знерваваны Геншэр кінуў Бэйкеру: «Калі ты будзеш падтрымліваць брытанцаў, перамовам канец!» У тую ж ноч Бэйкер скантактаваўся з брытанцамі і дамовіўся не настойваць на размяшчэнні войскаў. Назаўтра дамова пра «канчатковае ўрэгуляванне адносна Германіі» была падпісаная.

Падпісаўшы дамову, старшыня рады міністраў ГДР Лотар дэ Мезьер паклаў асадку ў кішэню. Усе іншыя дыпламаты, паглядзеўшы на яго, зрабілі тое самае. З кастрычніка Германія афіцыйна аб'ядналася, цяпер гэта свята — Дзень нямецкага адзінства.

## Што, калі б?..

Калі б брытанцы і амерыканцы настойвалі на ўвядзенні войск НАТА ў ГДР, ці пайшла б гісторыя іншым шляхам? «Перамовы працягваліся б, — адказвае фон Плата, — бо ніводны з бакоў не быў зацікаўлены ў іх спыненні». Нават Тэтчар была задаволеная: аб'яднаная Нямеччына ж будзе ў складзе НАТА! А кантынгент натаўскіх войск на адной тэрыторыі з савецкімі стварыў бы неспакойную абстаноўку ў свеце. ФРГ гэта разумела і выступала за нейтралітэт. Яе падтрымліваў Мітэран, які імкнуўся больш супрацоўнічаць з СССР і Гарбачовым.

## Пуцінская Расія — вынік пагарды Захаду

Стаўленне Захаду да СССР і Расіі ў 1990-я прафесар фон Плата лічыць несправядлівым. «Яны былі выцесненыя з сусветнай палітычнай сцэны, і як вынік — Пуцін з яго недэмакратычнай палітыкай цяпер мае такую падтрымку. Для расейцаў 1980—90-я і дэмакратыя асацыююцца з эканамічным крызісам, стратай моцнай пазіцыі ў свеце. Таму Гарбачоў, такі папулярны на Захадзе, такі непапулярны на радзіме. А тое, што цяпер адбываецца ў адносінах Захаду і Расіі, — не класічная халодная вайна, але гэта можна лічыць нечым падобным».

## Беларусь чакаюць гістарычныя змены

Аляксандр фон Плата пэўны, што гісторыя паўтараецца, што магчымасці і альтэрнатывы, некалі закладзеныя, але нерэалізаваныя, могуць адбіцца на падзеях праз пяць-дзесяць-дваццаць-сорак гадоў. А гістарычныя працэсы і канфлікты, якія не былі вырашаныя, а толькі прыхаваныя, — вяртаюцца, але ва ўскладненым выглядзе.

«Мяне ўсё жыццё цікавілі буйныя падзеі XX стагоддзя, што закранулі адносіны паміж Захадам і Усходам. А цяпер мяне цікавіць Беларусь у бліжэйшай перспектыве, — кажа фон Плата. — Захад доўгі час не звяртаў увагі на Беларусь. Але вага Беларусі ў свеце расце. І мне цікава, што будзе, калі Захад пачне глядзець на Беларусь не толькі як на эканамічнага партнёра, але і ў геапалітычным кантэксце».

**Падрыхтавала ПК**

**Артыкул друкуецца ў межах спецыяльнай рубрыкі «Навіны Германіі»**

# Археолагі знайшлі месца грандыёзнай бітвы бронзавага веку, якая пераварочвае ўяўленне пра гісторыю Еўропы

Выглядае, што супольнасці бронзавага веку былі вялікімі, арганізаванымі і немірнымі.

Каля 3200 гадоў таму два войскі сутыкнуліся на пераправе каля Балтыйскага мора.

Гэта супрацьстаянне не апісана ні ў адным падручніку гісторыі, аднак гэта не магла быць простая сварка паміж мясцовымі абшчынамі. Паводле ацэнак навукоўцаў, тысячы ваяроў сышліся ў жорсткай бітве, ужываючы зброю з дрэва, крэменю і бронзы — металу, які тады шырока ўжываўся ў вайсковых мэтах.

Новыя сведчанні такой маштабнай бітвы прымусілі многіх навукоўцаў перагледзець свае ўяўленні пра грамадства ў бронзавым веку ў Еўропе як пра досыць дрэнна арганізаванае.







Так маглі выглядаць ваяры бронзавага веку.

### Бітва каля пераправы

Бітва пачалася на беразе ракі Талензе, вузкай палоскі вады, якая цячэ праз балоты паўночнай Германіі ў бок Балтыйскага мора. Войскі сышліся ўрукапашную, калечачы і забіваючы адно аднаго баявымі дубінамі, дзідамі, мячамі і нажамі.

Стрэлы з бронзавымі і крэмневымі наканечнікамі былі выпушчаныя з блізкай адлегласці, яны прабілі галовы і косткі маладых мужчын. Коні высакапастаўленых ваяроў засталіся ляжаць на зямлі ўперамешку са смяротна паранenымі стрэламі і дзідамі людзьмі. Не ўсе засталіся на сваіх пазіцыях у баі: некаторыя ваяры беглі з поля бітвы, і іх стрэлы нагналі ўжо са спіны.

Калі бітва, нарэшце, была завершана, уся багністая даліна была літаральна засыпаная сотнямі трупаў.

Некаторыя засталіся ляжаць у неглыбокіх вадаёмах, іншыя апусціліся на дно. Торф павольна асеў на іх косткі, і прырода на стагоддзі схавала ўсе сляды грандыёзнай бітвы.

### Першым знайшлі крэмневы наканечнік

У 1996 годзе археолаг-аматар знайшоў на беразе ракі абломак плечавай косткі — гэта стала першай падказкай, што даліна Талензе хавае страшную таямніцу. Крэмневы наканечнік стралы працяў адзін канец косткі.



Парэшткі людзей на месцы старажытнай бітвы ляжаць вельмі шчыльна: на плошчы 12 квадратных метраў выяўлена 1478 костак, у тым ліку 20 чарапоў.

Гэта адкрыццё прымусіла археолагаў правесці раскопкі на невялікім участку, каб праверыць свае здагадкі. Падазрэнні апраўдаліся: былі знойдзеныя іншыя косткі, а таксама 73-сантыметровая дубінка, якая чымсьці нагадвае сучасныя бейсбольныя біты.

Усе артэфакты з дапамогай радыевугляроднага аналізу былі датаваныя прыкладна 1250 годам да нашай эры, гэта азначае, што бітва стала адным з эпізодаў бронзавага веку.

Цяпер, пасля серыі раскопак у перыяд паміж 2009 і 2015 гадамі, даследчыкі пачалі разумець, што гэта была за бітва і яе значэнне для людзей той эпохі.

Уздоўж трохкіламетровага ўчастка ракі Талензе археолагі з Дэпартамента па культуры і захаванні помнікаў даўніны Мекленбурга — Пярэдняй Памераніі (MVDHP) і Грайфсвальдскага ўніверсітэта (Universiteit Greifswald) раскапалі драўляныя дубінкі, бронзавыя наканечнікі дзід, крамянёвыя і бронзавыя наканечнікі стрэл. Яны таксама выявілі велізарную колькасць костак: рэшткі прынамсі пяці коней і больш чым 100 мужчын.

Адзначаецца, што сотні іншых пакуль могуць заставацца нязнойдзенымі. Тысячы воінаў таксама маглі выжыць у той бітве.

«Калі наша гіпотэза дакладная і ўсе парэшткі адносяцца да адной і той жа падзеі, то мы маем справу з грандыёзным сутыкненнем, якое заставалася абсалютна невядомым да гэтага часу», — лічыць археолаг Томас Тэрбергер (Thomas Terberger).

«Калі мы вывучым усё поле бітвы, мы можам знайсці і 750 трупаў людзей. Гэта неймаверна для бронзавага веку», — адзначае археолаг Дэтлеф Янцэн (Detlef Jantzen).

На думку Тэрбергера, калі, да прыкладу, кожны пяты ўдзельнік бітвы быў забіты і пакінуты на полі бою, то ў бітве бралі ўдзел амаль 4000 воінаў.

### Чаму ж навукоўцы нічога не ведаюць пра такую масавую бітву?

Паўночная Еўропа ў бронзавым веку знаходзілася ў цені больш развітых цывілізацый Блізкага Усходу і Грэцыі.

Так, бронза сама па сабе, упершыню выкарыстаная на Блізкім Усходзе прыкладна ў 3200 годзе да н.э., з'явілася ў Паўночнай Еўропе толькі праз 1000 гадоў.

Аднак маштаб бітвы пры Талензе прадугледжвае больш арганізаванасці, чым прынята лічыць. «Мы разглядалі сцэнар набегаў невялікай групы маладых людзей, якія забіваюць ворагаў і крадуць ежу, але ўяўляць такую агромністую бітву з тысячамі людзей даволі дзіўна», — кажа Сфэнд Хансэн (Svend Hansen), кіраўнік дэпартамента Еўразіі ў Археалагічным інстытуце Германіі.

Добра захаваныя косткі і артэфакты дадаюць некаторыя дэталі ў карціну бронзавага веку, паказваючы на наяўнасць арганізаванага класа ваяроў і на тое, што людзі з усёй Еўропы ўступалі ў крывавыя сутычкі.

Адзначаецца, што да археалагічных раскопак пры Талензе доказаў маштабных пабоішчаў у бронзавым веку было вельмі мала, асабліва ў гэтым рэгіёне.

Гістарычныя крыніцы з Блізкага Усходу і Грэцыі апісваюць эпічныя бітвы, але навукоўцы практычна не знаходзілі артэфактаў, якія пацвярджалі б такія аповеды.

«Нават у Егіпце, нягледзячы на чуткі аб многіх бітвах, мы ніколі не знаходзілі столькі парэшткаў іх удзельнікаў і ахвяр», — кажа археолаг Бары Молай (Barry Molloy).

А гістарычныя запісы пра войны бронзавага веку ў Еўропе былі яшчэ беднейшымі. Артэфакты, знойдзеныя ў розных пахаваннях, разглядаліся гісторыкамі як прэстыжныя рэчы або сімвалы ўлады, але не як арсенал зброі.

«Большасць даследчыкаў думала, што старажытныя грамадствы былі пераважна мірнымі і што мужчыны бронзавага веку займаліся пераважна гандлем ды рамяством», — тлумачыць археолаг з дацкага Орхускага ўніверсітэта Хеле Вандкільдэ (Helle Vandkilde).

### Што не падзялілі дзве арміі?

Гэта пакуль застаецца загадкай, якую навукоўцы з дапамогай археалагічных знаходак маюць намер разгадаць. Магчыма, гэтае месца было свайго роду праходам для падарожнікаў, якія перасякалі Паўночную Еўропу.

«Пераправа адыграла важную ролю ў гэтым канфлікце. Імаверна, адна група спрабавала яе прайсці, а іншая адцясняла іх. І канфлікт пачаўся спачатку там, а затым перайшоў у бітву ўздоўж ракі», — мяркуе Тэрбергер.

Навукоўцы маюць намер зрабіць аналіз ДНК загінулых, каб дакладна высветліць, адкуль менавіта яны маглі прыйсці. Папярэднія звесткі паказваюць на тое, што адна з груп загінулых пры Талензе людзей прыйшла здалёк.

### Ці трэба перапісваць падручнікі гісторыі?

Цалкам магчыма, што дэталёвае даследаванне бітвы пры Талензе прымусіць навукоўцаў перагледзець сваё меркаванне адносна грамад бронзавага веку, якія жылі ў рэгіёнах ад Балтыкі да Міжземнамор'я. «Гэта адчыняе дзверы новым сведчанням таго, што грамадства бронзавага веку было больш арганізаваным, чым прынята лічыць», — дадае археолаг Крысціян Крысціянсэн (Kristian Kristiansen) з Гётэборгскага ўніверсітэта.

Напрыклад, археолагі знайшлі пераканаўчыя доказы таго, што гэта было не першае сутыкненне для многіх мужчын, чые парэшткі былі знойдзеныя на месцы бітвы. На іх костках відаць загоеныя траўмы, якія засталіся ад ранейшых паядынкаў.

Пакуль спецыялістам цяжка растлумачыць прычыну гэтых траўмаў, але ваяры відавочна не падобныя да тыповых маладых земляробаў.

Так, некаторыя абломкі зброі і парэшткі коней, якія былі знойдзеныя ўперамешку з чалавечымі косткамі, сведчаць, што па меншай меры некаторыя ваяры былі добра экіпіраваныя.

«Яны не сяляне-салдаты, якія раз у некалькі гадоў выходзяць у паходы. Гэта прафесійныя байцы», — кажа Тэрбергер.

У любым выпадку, археолагі лічаць, што неабходна правесці яшчэ шмат даследаванняў, каб пацвердзіць свае здагадкі, і, магчыма, новыя звесткі дазволяць лепш зразумець жыццё людзей бронзавага веку.

sciencemag.org

## Рэчы, якія яны мелі

Археолагі знайшлі на месцы бітвы мноства артэфактаў, якія даюць дэтальнае ўяўленне пра зброю і ўпрыгожанні ваяроў. Паколькі навукоўцы карысталіся металашукальнікамі, было знойдзена шмат бронзавых і алавяных прадметаў.



**Алавяныя парсцёнкі і бронзавыя скруткі**
Гэтыя алавяныя пярсцёнкі, магчыма, былі на пальцах ваяроў. А малыя бронзавыя скруткі, магчыма, упрыгожвалі валасы ці вопратку.



**Драўляныя дубінкі**
Археолагі знайшлі дзве драўляныя дубінкі, якімі, верагодна, біліся ваяры ніжэйшага статусу. Простая 73-сантыметровая «бейсбольная біта» зробленая з ясеню, а 62-сантыметровая «кракетная клюшка» — з цёрну.



**Бронзавая сякера**
Сякеры кшталту гэтай выкарыстоўваліся і для вайны, і для працы цягам бронзавага веку. Імі гандлявалі і нават хавалі ў скарбы як форму багацця.



**Бранзалет**
Дэкараванае ўпрыгожванне паказвае, што прынамсі некаторыя ваяры мелі высокі статус.

Алесь Кіркевіч. Апавяданне.

# Імёны для Вікі

Чаты ў сацыяльных сетках нагадваюць ідэальную п'есу. У часы Чэхава пасля рэплікі трэба было дадаваць у дужках «ехидно улыбается», цяпер для падобных выпадкаў ёсць легіёны карцінак з усмешкамі, сабачкамі, лісамі, кактусамі. Тысячы карцінак замест дзясятка словаў у дужках. Тысячы карцінак замест эмацыйнай бездані жывой размовы.

...Яна нагадала аб сабе нечакана. Я ўжо даўно не згадваў яе імя, не ведаў таксама, ці яна згадвае маё. Згадала.

— Привет

У сэрцы закалола. Яе мініяцюрны партрэт усплыў на маніторы.

— Вітаю

— Как жизнь, Володечка?

— Нічо жызнь *(дурнаваты смайл з вясёлай лісой)*. Жывы і на свабодзе.

— Это хорошо *(смайл, з расцягнутай да неіснуючых вушэй усмешкай)*. У меня такое дело... Ты мне имя поможешь выбрать? Какое-нибудь беларусское. У меня будет дочка.

Мля! Я ледзьве з крэсла не ўпаў. За кратамі рэбраў, дзе толькі што закалола, утварылася пустка. Я застыў, утаропіўшыся вачыма ў акрайчык экрана з чатам. Дрыготкія пальцы паклаў на калені — далей ад клавіятуры.

— Наверное, отрываю? Не злись

— Не злую. Я нешта прыдумаю.

— Gracia! *(Тая ж самая задаволеная фізіяномія без вушэй)*.

Працаваць ужо не хацелася. Хацелася — каб нічога вакол не было. Ніколі.

* * *

...Тое лета не мела сканчацца. Горад глядзеў на нас і ўсміхаўся, калі мы кружлялі па брукаваных ходніках, па белым пяску ўздоўж абмялелай ракі, па асіметрычных вулачках драўляных кварталаў прыватнай забудовы. Дакладна ўсміхаўся, бо я рабіў бы так на ягоным месцы. Горад лічыў нас каханкамі.

Бацька Вікі быў азербайджанцам, вайскоўцам. Менавіта ён падарыў ёй смуглявую скуру, кучаравыя чорныя валасы і біблейныя цёмныя вочы, як на карцінах Эль Грэка. Адтуль жа шалёны тэмперамент, любоў да танцаў і падарожжаў.

Італію яна любіла больш за ўсё. Я быў там, яна не. Гэта была яе мара, якая магла рассыпацца ад неахайнага дотыку або няшчырага пацалунку. Мара, якую магла сапсаваць дрэнная сукня, няведанне мовы, месячныя, няслушная кампанія... Да Італіі трэба было рыхтавацца. Прынамсі, яна так казала. Казала і ўсміхалася.

Мы разам выбіралі ёй абутак, калі яна ламала абцас на той самай брукаванцы. Разам пілі піва і абгаворвалі афіцыянтаў ды афіцыянтак. Яе рукі сціскалі мае, калі перад вачыма праляталі чайкі.



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям'і гісторыкаў. Быў адным з лідараў Маладога фронту. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам-фрылансерам.

Яе сцёгны дакраналіся да маіх, калі хвалі разбіваліся аб гранітныя валуны.

«Мы ведь не делаем ничего плохого, правда?» — усміхалася яна, калі нас бачылі мае знаёмыя. Я ўсміхаўся ў адказ, не кажучы нічога, і праводзіў яе дадому. Дома на яе чакаў Алег, законны муж і мой сябар.

* * *

— Ты ведаеш, так крыўдна гэта ўсё згадваць... Ён, сука, прыходзіць у намётавае мястэчка, рукі цісне, тыпу, гарбату з дзяўчатамі сеў папіць. Зайшоў, мля, на чай! За ім журналістаў хеўра... «Трымайцеся, трымайцеся, я ганаруся...» Е...ць! А гэта не ты толькі што распусціў Плошчу і ўсіх адправіў па дамах? Не ты кветкі пайшоў класці? Так х..ле ты ўсіх заклікаў сюды прыйсці?!

На апошніх словах Алег кінуў цаглінy з асаблівай злосцю. Мы разбіралі старую печ на хутары. За садам, калі прайсці сенакосам метраў трыста, спускаешся акурат на залацісты нёманскі пясочак. Хутар Алег купіў зусім нядаўна. Купіў — для яе.

— Тыпу ты яго паслухаў, — усміхнуўся я.

— Не паслухаў, бо не для яго туды ішоў.

— Ну дык вось!

— Ай...

Хвіліны дзве мы моўчкі кідалі цэглу.

— «Х..ле зваў?» — гэта наогул самая лаканічная характарыстыка тых падзеяў, — зноў забурчаў Алег, не гледзячы ў мой бок. — Такое... народнае пытанне. Магчыма, рытарычнае.

— Пакаленне «Х..ле», — я зноў паспрабаваў перавесці размову на гумар. — А што? Класна гучыць! Усе ж думалі, што мы з табой — «пакаленне X», «пакаленне Next» або «пакаленне Маладога фронту»... А мы — «пакаленне Х..ле»...

— Ай... парадак мае быць — і ўсё. З такімі ...палітыкамі кашы не зварыш.

Алег нарэшце ўсміхнуўся, але неяк нядобра, зрабіўшы націск на слова «палітыкамі». У гэтым, зрэшты, быў увесь Алег. Двухметровы колішні баскетбаліст, з чубам на лоб і зачэсна пасівелымі скронямі. За рост у арганізацыі ён некалі меў мянушку Таполя.

Гэтым часам у пакой зайшла Віка, трымаючы лыжкі з відэльцамі, закручаныя ў ручнік. Відаць, акурат памыла.

— Вось ты, Вікторыя, чаму не была на Плошчы ў 2006-м? — з усмешкай павярнуўся да маладой жонкі Алег.

— А я не помню... Наверное, у подружки день рождения был.

— Ну вось табе, нацыя беларуская. Дзень нараджэння ў сяброўкі...

— А калі б не было дня нараджэння? — я таксама ўставіў свае пяць капеек, паглядзеўшы гаспадыні наўпрост у вочы.

— Да ну вас... — Віка махнула ручніком з лыжкамі пасля кароткай паўзы. — Есть идите.

Алегу ўвесь час трэба было ў нешта верыць. Патрэба служыць некаму чыталася ў прымружаных шэрых вачах ды выразных сківіцах. У іншай, «бел-чырвона-белай», Беларусі ён запраста зрабіў бы кар'еру мянта або вайскоўца.

Цяпер, расчараваўшыся ў партыях ды кандыдатах, за якія адматаў нямала па менскіх ізалятарах, Алег павярнуў у сям'ю. Хутар з пакручанымі старымі грушкамі і драўлянымі коламі быў толькі прыдаткам, храмавымі інтэр'ерамі для яго новай рэлігіі.

Мы розныя з Алегам. Я, расчараваўшыся ў тых жа партыях і кандыдатах, перастаў верыць у будзь-што і будзь-каго.

Спалі мы ўсе побач, у адзіным ацалелым ад часу і гвалтоўнай рэканструкцыі пакоі. Ложак жалезны нехта паспеў здаць на метал, мы леглі ў спальніках на падлозе, літарай «Г» чамусьці: яны двое і я адзін.

Алег абдымаў Віку, агарнуўшы яе грудзі і ўсю крохкую постаць сваёй рукой, затуліўшы няголены твар у россыпы чорных валасоў. Гэтым часам рука Вікі сціскала маю пад пухавікам, які я паклаў сабе пад галаву. Так усю ноч і праспалі — не зварухнуўшыся.

* * *

— Не уходи, останься... Просто побудь тут.

Парожнія пляшкі прыбраныя з моцнага, як Алегавы далоні, дубовага стала на падлогу. Відэльцы сумуюць побач з талеркамі з зацемненага шкла. З вокнаў пустой пакуль кватэры ў шматпавярховіку ўдзень бачныя ўсе ваколіцы: палі, лясы, дарога на Польшчу. Цяпер усю прыгажосць схавала жнівеньская ноч, з падаючымі зоркамі ды чорнай душой.

Алег затрымаўся і заночыў сам на хутары, бывае. Мы ўдваіх.

— Скажи, Володечка, ну почему ему так тяжело просто позвонить мне?

— Гоніш, ён жыве для цябе.

— Ну, я понимаю... А позвонить?

Яе сп'янелыя цёмныя вочы ўтаропіліся ў мяне. Ці разумее яна, што пляце? Ёе сэрца білася хутчэй, чым звычайна, анамальны рытм дыхання быў заўважны па схаваных пад чырвонай цішоткай грудзях. Яна сядзела, адкінуўшыся на спінку крэсла, а чорныя валасы спадалі на твар ды злёгку прыкрывалі левае вока.

— Я пайду, позна ўжо.

— Ну, пожалуйста, caro mio...

Калі яна прыўзнялася, каб нешта ўзяць са стала, я машынальна падцягнуў яе да сябе і пасадзіў на калені. Адчуў пах яе валасоў, а вуснамі крануўся шыі. Я запомніў, што яна насіла ланцужок, бо ён трапіўся мне на язык...

Праз гадзіну я выйшаў з пад'езда ў пустую бетонную скрыню двара. Самыя раннія птушкі яшчэ не прачнуліся, на працу ніхто не спяшаўся. Надыходзіла нядзеля.

У той перадранішняй цішыні я ўпершыню ў жыцці пачуў, наколькі галасна ў пустым двары можа звінець посуд, які мые самотная жанчына на пятым паверсе. Жанчына, якая не хацела цябе адпускаць.

* * *

— Вазьміце за аднаго, — перадаю складзеныя купюры кіроўцу маршруткі.

Скрозь запацелую шыбу мільгаюць агні святлафораў ды ліхтароў начнога горада, акурат праязджаем раён панэльных хрушчовак. Дамоў не бачна, адно святло ад вокнаў — нібы вочы ва ўтульны космас сямейнага жыцця. Недзе яшчэ чакаюць, недзе ўжо дачакаліся ды селі за стол, недзе леглі ў ложак... Ліе халодны веранеўскі дождж.

— Ты уже подъезжаешь?

— Так, пяць-сем хвілін.

— Хорошо, я под козырьком возле магазина «Охотник», возле арки который.

— Зараз буду.

Голас Вікі троху ўсхваляваны, мабыць, зноў пасварыліся, збегла з дому. Пагуляем? Пагуляем, чаму не. Я нават парасон дастаў, чорны з моцнымі сталёвымі спіцамі ды драўлянай разьблёнай ручкай, які набыў калісьці ў варшаўскім антыкварыяце каля Барбакану.

Гэпнуўшы дзвярыма белай «газэлі», я скіраваўся да перахода. Казырок, прыпынак, «Охотник»... Адышла? Куды і навошта? Акурат як званіла... На гадзінніку адзінаццатая, вакол ні душы. Паазіраўшыся, ныраю ў арку, трэба спраўдзіць двор. Сметніцы, будка, прыпаркаваныя аўто, жанчына ў вязаным берэце з сабакам.

— Вы не відзелі дзевушку с чорнымі курчавымі валасамі, маево роста?

— Нет, — цётачка шарахаецца ад мяне ды цягне свайго гадаванца да пад'езда.

Тэлефон... пайшлі гудкі. Скідае. Яшчэ. Яшчэ раз. Пасля трэцяга — «Абанент часова...» Ну, якія варыянты? Вядома, найгоршыя. Выпадковы вулічны напад. Або помста маіх «старых знаёмых», якія вырашылі націснуць на блізкага чалавека. Закінулі ў машыну і павезлі. Або сама псіханула, развярнулася і пайшла дадому... Чаму не?

Не, яна б так не зрабіла. Ніколі.

Час. Час у гэты момант я навучыўся адчуваць фізічна. Кожная хвіліна скатвалася халоднай кропляй па твары, бегла за каўнер. Чым больш набягала кропляўхвілінаў, тым менш заставалася шанцаў на аптымістычнае заканчэнне вечару, а мо і не толькі вечару.

Дождж трохі сціх, калі я наматаў трэцяе кола: прыпынак, крама, брама, двор, сметніца, праход між дамамі... Тэлефон па-ранейшаму недасяжны. Застаецца... найгоршае. Будзь што будзе. Набіраю Алега.

Доўгія гудкі. Адзін, другі, трэці, пяты... Калі чалавек не здымае пяць, можна не чакаць далей. Я не памятаю, колькі я чакаў і колькі набіраў. Ёй. Яму. Без толку.

Што далей? Ёсць, канешне, Віктар Іванавіч, даўнішні сябар пры пагонах, да якога можна звярнуцца... Але што сказаць? Знікла сяброўка... жонка сябра... майго сябра... майго... мая... мая Віка.

Вецер разагнаў хмары, дождж пайшоў на Наваградак і Менск.

— Але, это я... — голас у слухаўцы шаптаў. — Все хорошо, Володечка. Прости меня. Я все объясню... Завтра.

...зранку, мяркую, прыбіральшчыца здзівілася, знайшоўшы на прыпынку «Магазин «Охотник» у сметніцы элегантны чорны парасон з разьблёнай ручкай.

* * *

— Вы разминулись, буквально на пару минут, понимаешь?

Біблейныя вочы гэтым разам былі схаваныя за чорныя акуляры, у якіх адбівалася неба з контурамі імклівых аблокаў. Мы сядзелі на разбітых лавах старога заслека стадыёна непадалёк ад Нёмана. Лавы засталіся з часу майго дзяцінства: з надпісамі, выбоінамі, сардэчкамі ды наіўнымі мацюкамі. Мілота!

— Когда ты мне звонил из маршрутки, его машина уже подъезжала. Он вышел... Я его только по куртке узнала, как будто совсем другой человек. Он ударил меня по лицу, аж в глазах потемнело... Потом взял за волосы... кинул в машину.

Я не бачыў яе вачэй за акулярамі, але адчуваў, што яна саромеецца глядзець у мой бок. Яна сціскала вусны ды час-почас шморгала носам. Слёз я не заўважыў.

— Он привез меня домой, устроил допрос. Посадил на табурет посреди кухни и спрашивал, спрашивал, спрашивал...

— Аб чым?

— Почему я к нему «так» отношусь.

— А куды пайшла сярод ночы, не пытаў?

— Сказал, что ему без разницы.

За футбольным полем вецер гуляўся кронамі маладых таполяў. Праз год дваццаць яны стануць сапраўднымі волатамі, а ўжо праз трыццаць які-небудзь боўдур надумае іх спілаваць. Прычым сам не спілуе, а напіша данос у зелянгас. Гэта ж праца зелянгаса — пілаваць. «Данос на дрэва» — смешна і сумна...

— Потом у нас был секс... и он заснул. А я позвонила тебе.

— Я набіраў яго, калі не мог цябе знайсці. Ён бачыў?

— Я все почистила с телефона. Он крепко спит. Особенно если поработает хорошо.

Шматзначнасць апошняй фразы выклікала ўсмешку, цяпер ужо я адвярнуўся. Віка нарэшце зняла акуляры ды ўтаропілася ў мяне пачырванелымі заплаканымі вачыма. Левае вока было падбітае.

— Прости меня, пожалуйста, Володечка. Я пойму, если ты вообще со мной разговаривать не захочешь... Я виновата.

Яна сціснула маю далонь, а лбом прыхілілася да пляча. Абняць Віку мне чамусьці ў гэты момант не хацелася, але і злосці я ўжо не адчуваў. Нічога не адчуваў.

Калі вецер зноў закалыхаў верхаліны таполяў, я ўсё ж такі накінуў на яе сваю куртку ды прытуліў да сябе. Ці мала што.

* * *

Перада мной чысцюткі вордаўскі дакумент з пульсуючым курсорам. Нібы разасланы абрус, які гаспадары пакуль не аздобілі стравамі ды выпіўкай. Трэба пісаць нешта, працоўны дзень ужо бадай дагарэў. Хутка дадому...

«Глядзі што, тут пара імёнаў — чытанеш ды адпішаш, ці што выбрала.

Бірута. Так звалі жонку князя Кейстута, якая да пары прыслужвала пры паганскім капішчы Зніча. Мама князя Вітаўта.

Данута. Вельмі крутое імя, ёсць такі раман у Аляксея Карпюка, а яшчэ — ёсць паэтка Данута Бічэль, душа і голас Заходняй Беларусі.

Рагнеда. Полацкая князёўна, бацьку якой заваліў кіеўскі князь Уладзімір. Яе саму згвалціў ды ўзяў у жонкі. Рагнеда тае крыўды не забылася ды праз нейкі час хацела зарэзаць Уладзіміра ўначы, але няўдала. На тым ёй бы і канец, але заступіўся сын, таму Уладзімір расчуліўся і захаваў абаім жыццё.

Апошняе імя, я ўпэўнены, самае ўдалае».

Напісаць ліст... Далучыць... Каму: venice27vic@gmail.com Тэма: Імёны для Вікі.

Я не трымаў анікага зла, але крыўда пад рэбрамі, відаць, засела назаўжды. На кого і за што — не магу зразумець. Ці магло б быць інакш і як менавіта — таксама. Яна палічыла, што перастала быць мне цікавай, калі ўбачыла мяне на вуліцы з іншай праз месяц пасля... Хай лічыць.

Я думаў, што паставіў для сябе моцную заслону ў тую дажджлівую «ноч знікненняў». Памыляўся. Усё скончылася на наступны дзень. Але не на стадыёне, дзе мы ўчапіліся адно ў аднаго на тым вятрыску, а праз паўгадзіны. З акна аўтобуса я ўбачыў, як яна павольна, троху хістаючыся, у сваіх чорных акулярах ідзе ў бок аўтамайстэрні, дзе працаваў Алег.

Будзь шчаслівая, carina mia, а мне час ісці. На двары ліе халодны лістападаўскі дождж, акурат як у тую ноч.

Добра, што парасон ёсць — чорны, з моцнымі сталёвымі спіцамі ды разьблёнай драўлянай ручкай: тыдзень таму на дзень нараджэння нечакана падарыў Алег, мой сябар.



Жаночая зборная Беларусі па тэнісе ўпершыню ў гісторыі выйшла ў сусветную групу Кубка Федэрацыі. У турніры бяруць удзел восем наймацнейшых зборных у свеце. Для гэтага беларускі ў Маскве перамаглі зборную Расіі — 3:2. Дзве перамогі атрымала Вікторыя Азаранка (чацвёртая злева), а яшчэ адну — Аляксандра Сасновіч (другая злева). Апроч гэтага, Азаранка паспрачалася з расійскімі заўзятарамі, паказаўшы ім непрыстойны жэст.




Прыгожае графіці з надпісам «Barbara» і вершам беларускай лацінкай з’явілася на адным з будынкаў БНТУ на пачатку красавіка.




У краме symbal.by вырабілі арыгінальныя джэрсі зборнай Беларусі па хакеі. 91 — год незалежнасці.



У Новай Зеландыі адбылося першае ў гісторыі пастафарыянскае вяселле. Парадыйная Царква Лётаючага Макароннага Монстра правяла першае легальна афармленае вяселле. Маладыя бралі шлюб у пірацкіх касцюмах у новазеландскім горадзе Акароа. Царква Лётаючага Макароннага Монстра (таксама вядомая як пастафарыянства) была прыдуманая фізікам Бобі Хендэрсанам у 2005 годзе. Адэпты парадыйнай рэлігіі сцвярджаюць, што свет быў створаны макаронным монстрам, а людзі пайшлі ад піратаў. У сакавіку ўлады Новай Зеландыі афіцыйна прызналі пастафарыянства ў якасці рэлігійнай канфесіі і дазволілі праводзіць вяселлі паводле пастафарыянскага абраду.




Кобі Браянт, адзін з самых вядомых амерыканскіх баскетбалістаў, завяршыў сваю 20-гадовую кар’еру. У развітальным матчы Браянт набраў аж 61 пункт. Цяпер на інтэрнэт-аўкцыёне eBay выстаўленае паветра з развітальнай гульні Браянта, за лот прапаноўваюць аж 15 тысяч даляраў. Кобе Браянт — пяціразовы чэмпіён НБА. Ён таксама двойчы прызнаваўся найлепшым гульцом лігі.

## Анекдоты і жарты

* * *

— Парайце, што смешнага пачытаць?

— Пачытайце прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2016—2020 гады.

* * *

Хлопчык-геній скончыў школу ў 13, універсітэт — у 16, аспірантуру — у 17, а потым 10 гадоў хаваўся ад войска ў лесе.

* * *

Кот сапраўднага футбаліста ніколі не спіць клубком.

* * *

— Францішка Казіміраўна, вы ж інтэлігентная жанчына, са шляхецкага роду, а ўдарылі нашага старшага навуковага супрацоўніка прасам, якая ж гэта самаабарона?

— Прабачце, веера пад рукой не было.

* * *

Перад смерцю бацька вырашыў падзяліць спадчыну паміж трыма сынамі...

– Зашыбісь, блін! — сказаў чацвёрты сын.

* * *

– Якія ў вас чароўныя ямачкі на шчоках!

– Гэта ноздры...

* * *

Папрасіла сцюардэсу перасадзіць мяне на іншае месца, таму што побач сядзела і плакала дзіця. Аказваецца, гэта забаронена, калі дзіця тваё.

* * *

– Ты верыш у каханне з першага погляду?

– У маім узросце ўжо зрок падводзіць... мацаць трэба.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Солтаўшчына. Слуцкі павет.** Хлопец з вёскі Ракавічы, гадоў 13, прыйшоў на рэзурэкцыю ў царкву ды, змарыўшыся, забіўся недзе ў куток і заснуў так смачна, што і не чуў, як выйшлі ўсе, а яго пакінулі аднаго ў царкве і замкнулі. Сядзеў быў ён так доўга, каб не адзін чалавек, каторы спазніўся каробку пасвяціць. Прыехаў ён ужо, як людзі снедалі, падышоў да царквы і пачуў, як нехта там адзін спявае. Чалавек той пайшоў да бацюшкі і кажа, што ў царкве нехта ёсць. Адчынілі царкву — бачуць, там хлопец і гэтак ужо сплакаўся, што аж вочы падпухлі. Бедны хлопец!

**«НН». №15. 1911.**

**У час трансляцыі інаўгурацыі** Аляксандра Лукашэнкі на тэлеканале «Еўраньюс» можна было бачыць, што кіраўнік дзяржавы выглядаў стомлена, хваравіта, у яго былі выразныя мяшкі пад вачыма. Гэта выклікала новую хвалю чутак пра стан здароўя Лукашэнкі. Хаця прадстаўнікі Адміністрацыі прэзідэнта запэўнівалі апошнія тыдні, што стан здароўя кіраўніка краіны выдатны.

**«НН». №15. 2006.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 19.04.2016.
Замова №1298.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16015